Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 9 (4912) 3 сакавіка 2017 г.



# «ЛІМ» — НА ЎСЕ ЧАСЫ

## Аўтарытэтная пляцоўка

**Сардэчна віншую вас з 85-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара газеты «Літаратура і мастацтва».**

**На працягу многіх гадоў ваша выданне з'яўляецца аўтарытэтнай пляцоўкай для абмеркавання айчыннага літаратурнага працэсу. На яго старонках друкаваліся творы беларускіх класікаў, складвалася школа крытыкі, якая спрыяла якаснаму развіццю нацыянальнай культуры.**

**Сёння вы працягваеце лепшыя традыцыі, закладзеныя папярэднікамі, дапамагаеце прафесійнаму росту маладых талентаў, аб'яднанню творчай інтэлігенцыі краіны.**

**Упэўнены, што і надалей калектыў «ЛіМа» будзе актыўна ўдзельнічаць у рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры і літаратуры, асвятляць знакавыя падзеі ў духоўным жыцці Беларусі.**

**Шчыра жадаю супрацоўнікам і чытачам газеты дабрабыту, натхнення і поспехаў у працы.**

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**






*На здымках:*

*1. Падчас свята беларускага пісьменства ў Полацку (2003 год).*

*2. На з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі (2006 год).*

*3. Падчас святкавання 85-годдзя газеты «ЛіМ»: першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Максім Рыжанкоў (справа), міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, намеснік міністра інфармацыі Алесь Карлюкевіч.*

## Служэнне праўдзе жыцця

Шчыра віншую вас з 85-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара газеты «Літаратура і мастацтва».

Увесь час свайго існавання, ад самага першага выпуску, выданне адыгрывае важную ролю ў захаванні роднай мовы і культурнай спадчыны нашай краіны, духоўных традыцый і маральных ідэалаў народа. На яго старонках друкаваліся класікі беларускага пісьменства: Янка Купала, Якуб Колас, Іван Мележ, Іван Шамякін, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў і многія іншыя.

Сённяшні «ЛіМ» працягвае традыцыі папярэднікаў, спрые рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры і літаратуры, з'яўляецца адкрытай пляцоўкай для творчых дыскусій. Газета знаёміць чытачоў з творами айчыннай і замежнай прозы і паэзіі, уздымае пытанні літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства, актыўна асвятляе падзеі творчага жыцця краіны.

Упэўнена, што і надалей калектыў рэдакцыі будзе трымацца абранага курсу служэння праўдзе жыцця, захавае вернасць свайму прафесійнаму і грамадзянскаму абавязку.

Жадаю супрацоўнікам рэдакцыі, чытачам газеты «Літаратура і мастацтва» шчасця, здароўя і дабрабыту, невычэрпнай творчай энергіі, новых ідэй, плёну ў працы на карысць роднай Беларусі.

**Лілія АНАНІЧ,**
**міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

## Дарадчык у творчасці

Паважаныя калегі! Прыміце самыя шчырыя віншаванні з нагоды прыгожай юбілейнай даты — 85-годдзя газеты «ЛіМ».

Гісторыя выдання самым цесным чынам звязана з гісторыяй краіны, нягледзячы на літаратурную спецыфіку газеты. Праз мастацкія вобразы пісьменнікі заўсёды імкнуліся паказаць з'явы рэчаіснасці, асэнсаваць падзеі, усвядоміць ролю і значнасць чалавека ў іх.

Варта звярнуцца да падшывак выдання (а іх за дзесяцігоддзі стварыўся ладны стос), як стане зразумелым пісьменніцкі непакой за маральны стан грамадства, яго духоўныя каштоўнасці. Голас пісьменніка са старонак «ЛіМа» заўсёды гучаў у будучыню — з непакоем і перасцярогай, з заклікам помніць пра ўрокі мінулага, берагчы спадчыну, ніколі не губляць нацыянальную годнасць. Гэта трыбуна (няхай так высока будзе сказана) для вялікай гутаркі з шырокім чытацкім колам.

Сама газета — любімая сяброўка для многіх пакаленняў беларускіх творцаў. На яе старонках — «адбіткі» першых крокаў аўтараў-пачаткоўцаў, а праз час — публікацыі пра іх жа, знакамітых, шаноўных, народных... Газета ва ўсе часы — добры дарадчык у творчасці, шчыры сябар у жыццёвых клопатах. А іх пісьменнікам, як усім творчым людзям, таксама не займаць.

«ЛіМ» сёння — крыніца, што бруіцца сакавітай прозай, струменіць высокай паэзіяй. Бегчы па каменьчыках ёй дапамагае трапнае слова крытыкі. У звон крыніцы ўплятаецца шматгалосся таленавітых перакладаў.

Няхай берагі гэтай крынічкі ўмацоўваюць новыя імёны. Няхай яе пераліўы ўзмацняюцца галасамі народных талентаў. Няхай яе плынь нясе свае літаратурныя здабыткі ў мора вялікай нацыянальнай культурнай спадчыны.

*Саюз пісьменнікаў Беларусі*

*Фота Кастуся Дробава.*



## Пункцірам

✔ Гісторыю станаўлення беларускай дзяржавы трэба праўдзіва адлюстраваць у новых падручніках. Такое даручэнне даў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Падчас знаёмства з распрацоўкамі, вылучанымі ў 2016 годзе на саісканне Дзяржаўнай прэміі ў галіне навукі і тэхнікі, Прэзідэнт зацікавіўся цыклам навуковых прац «Вытокі беларускай дзяржаўнасці: Полацкая і Віцебская землі ў IX — XVIII стагоддзях», дзе па-новаму раскрываецца працэс фарміравання тэрыторый усходнеславянскіх раннедзяржаўных утварэнняў і іх цэнтраў. Даследаванні НАН Беларусі паказваюць, што беларуская дзяржаўнасць пачала фарміравацца ў сярэдзіне IX стагоддзя — са стварэннем Полацкай зямлі.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Расіі Таццяну Догілеву з юбілеем. «У Беларусі Вас ведаюць і любяць як таленавітую актрысу, якая сыграла мноства яркіх роляў. Запамінальныя вобразы, створаныя Вамі ў тэатры і кіно, вызначаюцца выразнасцю, унутранай сілай і абаяннем», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што і ў далейшым Таццяна Догілева будзе радаваць гледачоў новымі і цікавымі работамі.

✔ Конкурс «Спадчына» для рэгіянальных і карпаратыўных друкаваных СМІ па асвятленні тэмы 500-годдзя беларускага кнігадрукавання стартаваў 1 сакавіка. Арганізатары — Беларускі саюз журналістаў, Выдавецкі дом «Звязда». Да ўдзелу запрашаюцца як рэгіянальныя і карпаратыўныя друкаваныя СМІ, зарэгістраваныя ў Беларусі, так і асобныя творчыя работнікі гэтых выданняў. Узнагароджанне лаўрэатаў конкурсу адбудзецца ў Дзень беларускага пісьменства ў Полацку. Па выніках конкурсу РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі выдасць зборнік лепшых матэрыялаў.

✔ Дні культуры Беларусі ў В'етнаме пройдуць у маі 2017 года. Падчас сустрэчы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў В'етнаме Уладзіміра Гошына з намеснікам загадчыка міжнароднага аддзела ЦК Кампартыі В'етнама Нгуен Туан Фонга абмеркаваны шырокі спектр пытанняў, у тым ліку абмен візітамі, рэалізацыя гандлёва-эканамічных праектаў, правядзенне Дзён культуры, паглыбленне ўзаемадзеяння ў гуманітарнай сферы.

✔ Беларускі пісьменнік, аўтар кніг для дзяцей Валерый Кастручын узнагароджаны міжнароднай літаратурнай прэміяй імя В. Біянкі. Цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Прэмія імя В. Біянкі заснавана па беларуска-расійскім праекце бібліятэк Мінска і Масквы «Пад белымі крыламі». Гэтым разам было прадстаўлена больш за 500 работ з розных рэгіёнаў Расіі і сямі дзяржаў.

# Пад знакам «ЛіМа»

Восемдзесят пяць год — салідны ўзрост і для чалавека, і для перыядычнага выдання. За ўвесь час існавання праз «ЛіМ» прайшло шмат таленавітых пісьменнікаў і паэтаў, моцных крытыкаў, прафесійных фатографаў, адказных журналістаў. Мяняліся галоўныя рэдактары, дызайн газеты, назвы рубрык, творчыя канцэпцыі, нават памер і колькасць старонак, але ёсць тое, што заставалася нязменным на працягу ўсіх 85 гадоў. Гэта ўвага да культурнага жыцця і традыцый Беларусі, высокі эстэтычны ўзровень, сяброўскія зносіны з творцамі, імкненне задаволіць патрэбу чытача ў якасным аналізе літаратурнага і мастацкага асяродка краіны.

Дзень народзінаў газеты "Літаратура і мастацтва" зладзілі ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» ў Палацы Рэспублікі. На свята газеты творчай інтэлігенцыі запрасілі ганаровых гасцей: прыйшлі першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта



Дырэктар — галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» Павел Сухарукаў дзякуе паэту Міколу Мятліцкаму за актыўнае твочае супрацоўніцтва з газетай.

Рэспублікі Беларусь Максім Рыжанкоў, міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, прадстаўнікі творчых аб'яднанняў і прафесійных саюзаў, знакамітыя літаратары, мастакі, журналісты. Для гасцей імпрэзы падрыхтавалі прэзентацыю фотадзымкаў з лімаўскага архіва, кнігі з дарчымі надпісамі пісьменнікаў, паэтаў, літаратуразнаўцаў.

— «Літаратура і мастацтва» — адно з найстарэйшых выданняў Беларусі. Ім зачытваліся яшчэ ў савецкія часы, бо там прадстаўлялі актуальныя тэмы і давалі магчымасць заявіць пра сябе маладым пісьменнікам, — адзначыў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Максім Рыжанкоў, які зачытаў віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

— У нашай краіне слова, талент, мова, культура непарыўна з'яднаны з дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкай. І тое, што газету творчай інтэлігенцыі «ЛіМ» павіншаваў з юбілеем кіраўнік дзяржавы, — добры знак для ўсёй нацыянальнай інтэлігенцыі, — падкрэсліла міністр інфармацыі Лілія Ананіч. — Я ўпэўнена, што слова пісьменніка — чалавека, які валодае мовай, культурай, досведам пра стан нашай нацыянальнай духоўнасці, ніколі не застанецца без парасткаў і без зерня.

Ганаровыя граматы Міністэрства інфармацыіі Рэспублікі Беларусь за добрасумленную працу і высокае прафесійнае майстэрства атрымалі вядучы фотакарэспандэнт «ЛіМа» Кастусь Дробаў, адказны сакратар Раіса Марчук ды намеснік галоўнага рэдактара Інеса Петрусевіч. Узнагародай дзейнасць газеты вырашыў адзначыць таксама Саюз пісьменнікаў Беларусі. Ганаровы медаль ад СПБ атрымала рэдактар аддзела прозы і паэзіі, пісьменніца Яна Явіч. З прывітальным словам да аўдыторыі звярнулася першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах:

— Ужо 85 гадоў літаратурная газета стварае мастацкі вобраз нашай Беларусі, бо творчасць пісьменніка заўсёды непарыўна звязана з жыццём краіны. Вельмі прыемна гартаць старонкі нашага «ЛіМа», бо там рабілі першыя крокі пісьменнікі, якія пасля станавіліся народнымі і паважанымі ва ўсім свеце.

Дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі Іван Саверчанка падкрэсліў: «Мы ніколі не здолеем сказаць пра ўсё, што зрабіла газета "Літаратура і мастацтва" для краіны, грамадства, культуры, адукацыі, увогуле для беларускай дзяржаўнасці». Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца згадаў тыя часы, калі яму даводзілася прачынацца а 6-й гадзіне раніцы, каб заняць чаргу ў газетны шапік і набыць «ЛіМ»: «Быў такі час, калі мой бацька, селянін, і амаль палова радні выпісвалі газету "Літаратура і мастацтва", таму што ў ёй можна было прачытаць тое, чаго не знойдзеш у астатніх газетах».

Віншаванні атрымалі і ад міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Юрыя Бондара. Віктар Языковіч, прарэктар па навуковай працы БДУКМ, адзначыў, што «ЛіМ» — важнае выданне для культурнай супольнасці краіны.

— Беларуская культурная прастора на пачатку мінулага стагоддзя ўжо патрабавала асэнсаванага адлюстравання літаратурных і мастацка-творчых працэсаў жыцця, і ваша газета стала першай, якая здолела гэта ажыццявіць, — звярнулася да калектыву «ЛіМа» старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафесійнага саюза работнікаў культуры, інфармацыі, спорту і турызму Наталля Аўдзеева. Яна згадала, што Беларускі прафесійны саюз работнікаў культуры, інфармацыі, спорту і турызму ўтварыўся на аснове прафесійнага саюза друкароў. «Літаратура і мастацтва» — гэта тая газета, якая ніколі не трапляла ў макулатуру, а збіралася і старанна захоўвалася ў архіве, сцвярджае Наталля Аўдзеева. Каб так было і надалей, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Павел Сухарукаў паабяцаў спрыяць паспяховаму існаванню газеты ў складзе агульнай рэдакцыйна-выдавецкай установы.



Пісьменнік Алесь Бадак, кампазітар Эдуард Зарыцкі, пісьменнік Віктар Шніп разглядаюць фотадзымкі з архіва «ЛіМа».

Нагадаць гасцям пра сувязь «ЛіМа» з народнай творчасцю, традыцыямі ды каранямі беларускага мастацтва дапамог Алег Хаменка, лідар групы «Палац», які выканаў перад аўдыторыяй народныя песні ў сучаснай апрацоўцы. Трэба адзначыць, што да сябе на юбілей «Літаратура і мастацтва» чакала не толькі ганаровых асоб і грамадскіх дзеячаў, а ў першую чаргу адданых сяброў, каб падзяліцца ўспамінамі ды абмеркаваць далейшае супрацоўніцтва.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**3 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Дзмітрыем Дземідовічам, прысвечаную Міжнароднаму дню пісьменніка, у інтэрнат Агенцтва па дзяржрэгістрацыі і зямельным кадастры (вул. Асіпенкі, 17/2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**4 сакавіка** — *на творчы вечар паэтэсы Кацярыны Массэ ў музей «Прастора Хаіма Суціна» (г. п. Смілавічы). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**6 сакавіка** — *на літаратурна-музычнае свята, прысвечанае Міжнароднаму жаночаму дню, у публічную бібліятэку № 4 (вул. Лабанка, 22). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**7 сакавіка** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак у 14. 30.*

**9 сакавіка** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**10 сакавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак у 14.30.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**6 сакавіка** — *на сустрэчу старшакласнікаў Вілейскай гімназіі № 2 (вул. Чапаева, 75) з паэтамі Віктарам Кажурам, Ірынай Карнаухавай, Бажэнай Мацюк і Уладзімірам Цануніным. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 сакавіка** — *на пасяджэнне клуба «Літара» пры Брэсцкім гарадскім цэнтры культуры з удзелам брэсцкіх паэтаў (вул. Гогаля, 5). Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**6 сакавіка** — *на вечар паэзіі «Жанчыны ёсць са светлым зяннем...» у Полацкі раённы Цэнтр рамёстваў і нацыянальныхкультур(вул.Ніжне-Пакроўская,27). Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 сакавіка** — *на святочную сустрэчу з паэтам Дзмітрыем Радзівончыкам і бардам Анатолем Апанасевічам, прысвечаную Міжнароднаму жаночаму дню, у СШ № 12 г. Гродна (вул. Паповіча, 32). Пачатак а 12-й гадзіне.*

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб рэспубліканскім творчым конкурсе юных чытальнікаў «Жывая класіка»

### 1. Агульныя палажэнні

**1.1.** Дадзенае Палажэнне вызначае мэты і задачы рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка», які праводзіцца (далей — Конкурс) ад школьнага да рэспубліканскага этапаў.

**1.2.** Заснавальнікамі Конкурсу сярод навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, устаноў дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне», ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі».

### 2. Мэты і задачы Конкурсу

**2.1.** Конкурс ладзіцца ў мэтах:

• павышэння цікавасці дзяцей і падлеткаў да чытання;

• развіцця і захавання высокіх маральных каштоўнасцяў і ідэалаў беларускага грамадства;

• выхавання падрастаючага пакалення на лепшых узорах нацыянальнай літаратуры;

• прыцягнення ўвагі грамадскасці да праблематыкі чытання;

• пашырэння чытацкага кругагляду;

• пошуку і падтрымкі таленавітай моладзі.

**2.2.** Дэвіз Конкурсу — «Чытаем шмат, чытаем разам, ствараем сябе і краіну!».

### 3. Парадак і ўмовы правядзення Конкурсу

**3.** Да ўдзелу ў Конкурсе запрашаюцца вучні пачатковых класаў, 5-6, 7-8 і 9-10 класаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі і ўстаноў дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

**3.1.** Конкурс праводзіцца ў чатыры этапы:

— першы этап (з 1 па 31 сакавіка 2017 г.) ладзіцца ва ўстановах агульнай сярэдняй і дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Колькасць удзельнікаў не абмяжоўваецца;

— другі этап (з 1 па 30 красавіка 2017 г.) — раённы. Пераможцы раённага этапу конкурсу, якія зоймуць першыя месцы ў кожнай узроставай групе, бяруць удзел у абласным этапе конкурсу;

— трэці этап (з 1 па 31 мая 2017 г.) — абласны (мінскі гарадскі) — праводзіцца абласнымі ўстановамі дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі і Мінскім гарадскім палацам дзяцей і моладзі. Пераможцы трэцяга этапу ў кожнай узроставай групе бяруць удзел у заключным рэспубліканскім этапе;

— чацвёрты этап — заключны, праводзіцца напярэдадні або ў Дзень беларускага пісьменства ў горадзе — сталіцы свята беларускага пісьменства. Удзел у заключным рэспубліканскім этапе Конкурсу бяруць пераможцы абласнога (мінскага гарадскога) этапу Конкурсу.

### 4. Журы Конкурсу

**4.1.** У склад журы Конкурсу на ўсіх этапах уваходзяць вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, настаўнікі, бібліятэкары, пісьменнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў.

**4.2.** Крытэрыі ацэнкі выступлення (паказчыкі — балы):

| | |
|---|---|
| глыбіня пранікнення ў вобраз і сэнс твора | **ад 0 да 10** |
| выбар тэксту твора | **ад 0 да 10** |
| артыстызм выканання | **ад 0 да 10** |
| максімальны бал | **30** |

### 5. Узнагароджанне пераможцаў Конкурсу

**5.1.** Усе ўдзельнікі Конкурсу ўзнагароджваюцца дыпломамі лаўрэатаў конкурсу, дыпломамі пераможцаў першай, другой і трэцяй ступеняў адпаведна.

**5.2.** Пераможцы рэспубліканскага Конкурсу ўзнагароджваюцца пуцёўкай у Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубронак».

### 6. Інфармацыйнае забеспячэнне Конкурсу

**6.1.** Этапы правядзення Конкурсу шырока асвятляюцца ў сродках масавай інфармацыі.

**6.2.** Інфармацыйнымі партнёрамі Конкурсу з'яўляюцца: «Выдавецкі дом "Звязда"», часопісы «Вясёлка», «Бярозка», «Качелі», «Зорька», «Рюкзачок» і іншыя СМІ (па ўзгадненні з заснавальнікамі).

**6.3.** На працягу правядзення этапаў Конкурсу здымаюцца сюжэты і дэманструюцца ў эфіры нацыянальных і рэгіянальных тэлеканалаў.

Тэлеверсія заключнага рэспубліканскага этапу Конкурсу транслюецца асобнай праграмай у эфіры ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне».

### 7. Фінансаванне Конкурсу

**11.1.** Фінансаванне Конкурсу забяспечваецца заснавальнікамі Конкурсу за кошт бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў.

**11.2.** Могуць выкарыстоўвацца іншыя крыніцы фінансавання ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# ДА СПАДЧЫНЫ АСВЕТНІКА

**Літаратурныя конкурсы, якія ладзіць Саюз пісьменнікаў Беларусі, спрыяюць выяўленню маладых талентаў. Новае творчае спаборніцтва — «Скарынавай душой узлашчанае слова» — прысвечана 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Конкурс праводзіцца без узроставых абмежаванняў.**

Журы, у складзе якога — пісьменнікі, выдаўцы, вучоныя-філолагі, літаратурныя крытыкі і грамадскія дзеячы, вызначае 6 лепшых творчых работ (адно першае месца, два другія і тры трэція). Пераможцы атрымаюць дыпломы і прызы, а іх творы будуць апублікаваны ў беларускіх літаратурна-мастацкіх выданнях. На конкурс прымаюцца вершы, апавяданні, казкі, п'есы і г. д. Тэматыка — вольная.

Конкурсныя работы трэба дасылаць да 15 мая на адрас Саюза пісьменнікаў Беларусі (220034, г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5) або на электронную пошту (*oo-spb@tut.by, akrejdzich@yandex.by*) з пазнакай «На конкурс». Работы, дасланыя пазней за 15 мая, разглядацца не будуць.

Тэксты конкурсных работ павінны быць аддрукаваны на адным баку папяровага аркуша фармату А-4. Агульны аб'ём работы не павінен перавышаць пяці такіх аркушаў.

На тытульным лісце неабходна ўказаць прозвішча, імя ды імя па бацьку, дату нараджэння аўтара, месца працы або вучобы, паштовы адрас, нумары кантактных тэлефонаў, *e-mail* (калі ёсць).

Вынікі конкурсу будуць падведзены да 1 ліпеня.

**Арына КРАЙКО**

# ЛіМ-каляндар

**28 лютага** — 90 гадоў з дня нараджэння Марка Смагаровіча (1927 — 2006), беларускага паэта.

**28 лютага** 80 гадоў адзначае Георгій Галенчанка, беларускі гісторык-медыявіст, кнігазнаўца.

**1 сакавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння Фёдара Шмакава (1917 — 2009), беларускага акцёра, рэжысёра, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

**1 сакавіка** 70 гадоў спаўняецца Алесю Камароўскаму, беларускаму паэту, празаіку.

**1 сакавіка** 75-гадовы юбілей святкуе Уладзімір Перлін, беларускі віяланчэліст, педагог, дырыжор, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

**1 сакавіка** — 70 гадоў з дня нараджэння Міхася Кацюшэнкі (1947 — 2016), беларускага празаіка, журналіста.

**1 сакавіка** 70 гадоў адзначае Станіслаў Наско, беларускі кампазітар.

**1 сакавіка** 60-гадовы юбілей святкуе Надзея Уркіна, беларускі харэограф, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь.

**2 сакавіка** 90 гадоў спаўняецца Арыядне Ладыгінай, беларускаму вучонаму-эстэтыку, музычнаму крытыку, педагогу.

**2 сакавіка** 75 гадоў адзначае Віктар Лужкоўскі, беларускі паэт.

**3 сакавіка** — 70-гадовы юбілей Валерыя Грышановіча, беларускага паэта, публіцыста.

**4 сакавіка** — 90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Дубянецкага (1927 — 1990), беларускага перакладчыка, публіцыста.

**4 сакавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Тура (1937 — 2003), беларускага тэатральнага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

## *Дайджэст*

• Рэканструкцыю старадаўняга парку і возера маёнтка Агінскага Залессе пачнуць вясной. Першымі на прылеглай да сядзібы тэрыторыі з'явяцца меліяратары. Чакаецца, што яны пачнуць працы па ачыстцы ложа возера ўжо ў сакавіку ці красавіку. Акрамя меліярацыйных работ, ачысткі возера, плануецца адрамантаваць два гідратэхнічныя збудаванні. Рэстаўруюць у палацавым стылі металічны і бетонны масткі над дамбамі. Аўтар праекта рэстаўрацыі самой сядзібы — архітэктар Людміла Іванова. Ёсць ідэя па адраджэнні яшчэ аднаго страчанага моста да астраўка ў цэнтры возера. «Вернуцца» ў сядзібу абодва паркі — англійскі пейзажны і рэгулярны французскі. У першым адновяць алею праз фруктовы сад, малыя архітэктурныя формы, лавы і масткі, разаб'юць кветнікі. Рэгулярны французскі парк быў кампазіцыйна звязаны з палацам і знаходзіўся па дарозе да яго. Такім ён паўстане перад наведвальнікамі зноў — у форме прастакутніка з геаметрычнымі ўзорамі з газонаў, кустоў і невысокіх дрэў.

• Праграма «Наша раніца» на тэлеканале АНТ упершыню выйшла на беларускай мове 21 лютага. Супрацоўніца АНТ Марыя Сысой пазней напісала на сваёй старонцы ў фэйсбуку, што ёсць прапановы рабіць такія праграмы ў далейшым. Умовай штомесячных выпускаў беларускамоўнай праграмы сталі 5000 праглядаў эфіру на *Youtube*. «Зараз самы час падсумаваць вынікі. Вельмі прыемна, што ў нас шмат гледачоў, якія зацікаўленыя ў наяўнасці беларускамоўнага кантэнту на АНТ. На 17.00 28 лютага вас — тых, хто ўбачыў першы ў гісторыі тэлеканала выпуск ранішняй праграмы на беларускай мове, — было 11031 чалавек. Гэта ўдвая больш за нашыя прагнозы», — паведаміла спадарыня Марыя. Журналістка паабяцала, што доўга чакаць вынікаў не давядзецца.

• Абвешчаны кароткі спіс намінантаў на літаратурную прэмію «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. У паэтычнай частцы паспаборнічаюць Аляксей Арцёмаў з кнігай «Скрозь кіламетры», Міхал Бараноўскі са зборнікам «*VOLUMEN 1.*» і Ганна Комар з першай кнігай вершаў «Страх вышыні». У прозе сёлета вылучаныя Андрэй Дзічэнка («Сонечны чалавек»), Андрусь Горват з ужо вядомай кнігай «Радзіва Прудок» ды Уладзімір Садоўскі са зборнікам апавяданняў і аднайменнай кнізе аповесцю «1813». У намінацыі «Пераклад» тройку лідараў склалі Адэля Дубавец, Надзея Кім і Сюзанна Паўкштэла за перастварэнні «Танца мядзведзяў» Вітальда Шаблоўскага, «Хронік Нарніі» К. С. Льюіса і «Бога дажджу» Альвідаса Шляпікаса адпаведна.

• Прадстаўнікі Беларусі на міжнародным конкурсе песні «Еўрабачанне-2017» артысты групы *NAVIBAND* Арцём Лук'яненка і Ксенія Жук правялі фотасесію для афармлення еўразійнай прома-прадукцыі калектыву, а таксама афіцыйных выданняў конкурсу і атрымалі магчымасць патрымаць у руках рэдкі экземпляр копіі Бібліі Скарыны на царкоўнаславянскай мове ў беларускай рэдакцыі. Біблія была даставлена ў фотастудыю з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Паводле задумы, падчас фотасесіі музыканты гарталі рарытэтную кнігу, а фотамайстры Яўген Канаплёў і Юлія Лейдзік фіксавалі іх эмоцыі. Другая частка здымак прайшла ў этнаграфічным комплексе ў Заслаўі. Фанаты «Еўрабачання» ужо назвалі нашых удзельнікаў пасламі беларускай культуры і мовы.

# Скарына як сімвал яднання

**Завяршыла сваю работу 18-я Вільнюская кніжная выстаўка-кірмаш. Прадстаўнічая беларуская дэлегацыя пад кіраўніцтвам Міністэрства інфармацыі і пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы пазнаёміла гасцей кніжнага свята са шматлікімі навінкамі беларускага кнігавыдання. На стэндзе, арганізаваным ААТ «Белкніга», сённяшнюю Беларусь кніжную можна было адкрываць па выданнях «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі», «Мастацкай літаратуры», «Вышэйшай школы», «Пачатковай школы», Выдавецкага дома «Звязда», «Адукацыі і выхавання», «Беларусі», «Народнай асветы»…**

## Юбілей беларускага кнігадрукавання — у цэнтры ўвагі

Адразу пасля ўрачыстага адкрыцця выстаўкі, на якім з вітальным словам выступіла і Прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі Даля Грыбаўскайтэ, быў адкрыты стэнд Рэспублікі Беларусь. Варта заўважыць, што «Белкніга» мае багаты досвед афармлення экспазіцыі. У цэнтры — заўсёды выданні, што ілюструюць жыццё Беларусі сёння: альбомы, ілюстрацыйны матэрыял, дзяржаўная сімволіка. Сёлета і «Белкніга», і выдавецтвы, якія ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы да выстаўкі, везлі тыя свае здабыткі ў Вільнюс, што акцэнтуюць увагу на асветніцкай, культуралагічнай літаратуры. Шмат увагі — да кніг, выдадзеных у сувязі з 500-годдзем беларускага кнігадрукавання. У іх ліку — і тыя, што падаравалі чытачу напрыканцы 2016 і на пачатку 2017 года выдавецтвы «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Мастацкая літаратура», Выдавецкі дом «Звязда», «Беларусь», «Народная асвета»… Назавём хаця б некаторыя: анталогія перакладаў аднаго верша «Францыск Скарына на мовах народаў свету», «Шляхамі Францыска Скарыны» Анатоля Цітова, «Францыск Скарына — чалавек свету», «Францыск Скарына. Чалавек-энцыклапедыя», «Францыск Скарына. Чалавек-легенда» Алеся Сушы, «Маем найбольшае самі» Алеся Разанава…

Адкрываючы стэнд, адкрываючы беларускую экспазіцыю, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алесь Карлюкевіч падкрэсліў, што Францыск Скарына, яго ідэі павінны яднаць народы. Асабліва — народы і краіны, якія знаходзяцца ў памежжы, блізкія адзін да аднаго праз сваю гісторыю, праз стагоддзі супольнага жыцця. У адкрыцці беларускай экспазіцыі ўзялі ўдзел супрацоўнікі беларускай амбасады ў Вільні — Людміла Татарыновіч, Вольга Дашыневіч, Павел Слюнькін. Перад прысутнымі выступілі і актыўныя ўдзельнікі беларускага грамадскага руху ў Літве.

## Знаёмства з кнігамі — знаёмства з Беларуссю

Побач са стэндам беларускіх дзяржаўных выдавецтваў размясціўся стэнд музейна-замкавага комплексу «Мір». І гэта зусім не выпадковасць. У музейнай установе даўно апякуюцца выдавецкай справай. Як правіла, выдаюць кнігі гістарычнага, асветніцкага характару. І таксама ў гандлёвых кропках замка рэалізоўваюць яшчэ і кнігі іншых выдавецтваў, якія прысвечаны гісторыі. З гэтым багажом музейшчыкі і прыехалі ў Вільнюс. Такім чынам яны расказвалі пра Беларусь гістарычную. А яшчэ — наладжвалі стасункі з патэнцыйнымі турыстамі, з усімі, хто жадае наведаць і замак, і нашу краіну.

— Мы мяркуем, што запрашэнне наведаць замкавы комплекс у Міры, які сёння выключна ўражліва прэзентуе Беларусь гістарычную, будзе болей пераканаўчым, калі мы пакажам кнігі, раскажам пра вартасці і сустрэчы ў Міры і пра скарбы, што захоўвае наша гістарычная памяць, — заўважае дырэктар Аляксандр Лойка. — Ды і спадзяёмся, што, пабываўшы на выстаўцы, пазнаёмімся з цікавымі асобамі, кіраўнікамі, арганізатарамі асветніцкага жыцця ў Вільнюсе. Адным словам, чакаем усіх літоўцаў на экскурсіях у Міры!..

## Гімназія ў Вільнюсе. Скарынаўскае свята

Гімназія імя Францыска Скарыны знаходзіцца ў Вільнюсе па вуліцы Сеціно, 21. Гісторыя гэтай навучальнай установы мае амаль стагадовую біяграфію (заснавана ў 1919 годзе).

У даваенныя гады з лёсам гімназіі былі паяднаны і вучоны Барыс Кіт, і паэт Хведар Ільяшэвіч, і перакладчык «Слова пра паход Ігаравы» Мікалай Анцукевіч, і паэт Максім Танк, і шмат хто яшчэ са знакамітых дзеячаў навукі і асветніцтва. Таму цалкам лагічнай падалася ініцыятыва беларускай дэлегацыі зладзіць свята Скарыны менавіта ў гімназіі яго імя. І тым самым пачаць трыумфальнае шэсце 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў Літве. Дарэчы, 2017 год абвешчаны ў Вільнюсе Годам Францыска Скарыны. У гімназіі прывітаць вучняў і настаўнікаў прыйшлі згаданыя ўжо супрацоўнікі беларускай амбасады ў Вільнюсе, намеснік міністра інфармацыі Алесь Карлюкевіч, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец, вядомы ў Беларусі і за яе межамі культуролаг, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі — літоўскія літаратары Вітаўтас Жэймантас, Яронімас Лауцюс, старшыня беларускага клуба «Сябрына» Валянцін Стэх. Дарэчы, менавіта Валянцін Стэх ужо не ўпершыню ладзіць у Вільнюсе скарынаўскія імпрэзы, чытанні.

Алесь Суша расказаў удзельнікам свята пра новы праект — кнігу, прысвечаную адрасам Францыска Скарыны ў Вільні. Яе рыхтуе да друку Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Дарэчы, даведнік у значнай ступені дапамагаюць рабіць і літоўскія даследчыкі.




*Мемарыяльная дошка, прысвечаная Францыску Скарыну, у Вільнюсе.*

На сустрэчы ў гімназіі начальнік упраўлення Міністэрства інфармацыі Алена Паўлава зазначыла, што Беларусь перадае беларускай дыяспары ў Літве 6 камплектаў кніг у межах праграмы «Беларусы замежжа». Кожны з камплектаў уключае 127 назваў кніг. Адна з бібліятэчак застанецца ў гімназіі імя Ф. Скарыны. Між іншым, у гэтай навучальнай установе сабрана багатая бібліятэка сучаснай беларускай літаратуры. Многія беларускія літаратары лічаць за гонар падараваць свае кнігі з аўтографамі гімназіі імя Ф. Скарыны. На паліцах — кнігі Людмілы Рублеўскай, Вольгі Іпатавай, Алены Масла, Уладзіміра Арлова, Раісы Баравіковай… Сапраўдная бібліятэка літаратурнай дружбы!..




*Ля стэнда на Вільнюскай кніжнай выстаўцы-кірмашы.*

## У Саюзе пісьменнікаў Літвы

Сустрэча са старшынёю Саюза пісьменнікаў Літвы спадаром Антанасам А. Ёнінасам — гэта яшчэ і спроба зверыць гадзіннікі, вылучыць новыя ініцыятывы супрацоўніцтва. Прадстаўнікі беларускай амбасады і Міністэрства інфармацыі Беларусі вялі размову пра тыя справы, што з'яўляюцца складнікамі міжнароднага літаратурнага жыцця. Запрасілі кіраўніка літоўскага творчага саюза наведаць нашу краіну ў Дзень беларускага пісьменства, які сёлета пройдзе ў Полацку. Расказалі пра міжнародны сімпозіум «Пісьменнік і час». Пра міжнародны круглы стол пад агульным дэвізам «Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго», які штогод ладзіцца ў межах Дня беларускага пісьменства. Пра тыя шырокія магчымасці для пашырэння перакладчыцкіх сувязяў, што вылучаюць дзяржаўныя літаратурна-мастацкія часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман», газета «Літаратура і мастацтва». Пра выданне перакладных кніг у Выдавецкім доме «Звязда» і выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Саюз пісьменнікаў Літвы налічвае сёння больш як 350 членаў. Працуе кніжнае выдавецтва творчай арганізацыі. У Каўнасе і Клайпедзе ёсць аддзяленні Саюза пісьменнікаў. Выдаюцца ў Літве і літаратурныя часопісы. Літоўскія перакладчыкі паэзіі добра ведаюць не толькі нашых класікаў, але і сучасных паэтаў Беларусі, ахвотна іх перакладаюць.

## У бібліятэцы імя Урублеўскіх

У беларускіх навукоўцаў — добрыя стасункі з Бібліятэкай імя Урублеўскіх. Яе гісторыя патрабуе асобнага расповеду. Ды і беларускія навукоўцы, краязнаўцы добра ведаюць гэтую кніжніцу, якая, між іншым, і сёння ў добрых стасунках з Беларуссю, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, Навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа. Цікавым падаецца наступны факт: толькі летась болей як 70 беларускіх даследчыкаў працавалі ў фондах літоўскай бібліятэкі. Дагэтуль колькасць чытачоў з Мінска была нашмат меншай.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ўжо ў 2017 годзе Бібліятэка імя Урублеўскіх зрабіла адмысловае выданне пра скарынаўскія скарбы ў сховах гэтай кніжніцы. А расказаць ёсць пра што… Госці з Беларусі на свае вочы ўбачылі не адно скарынаўскае выданне. Гаспадары наўмысна да сустрэчы з беларусамі падрыхтавалі невялікую выстаўку рарытэтаў. Не забыліся паказаць і фотаздымак легендарнай беларускай пісьменніцы Алазіі Пашкевіч — Цёткі. А таксама — беларускія газеты «Наша доля», «Наша ніва».

Спадзяёмся, што выданне пра скарынаўскія скарбы ў Вільні заўважаць і ў Беларусі, а некаму менавіта яно паспрыяе ў карпатлівых даследчыцкіх росшуках.

## Ініцыятывы Міністэрства культуры Літвы

Разам з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Аляксандрам Каралём беларуская дэлегацыя завітала і ў Міністэрства культуры Літвы. Гасцей з Мінска вітаў намеснік міністра культуры Аўдроніс Імбразас. Размова ішла пра многія справы, звязаныя з беларуска-літоўскімі стасункамі ў галіне культуры. Выказана была думка і пра патрэбу ў арганізацыі Дзён культуры Беларусі ў Літве. Несумненна, такая падзея выклікала б увагу многіх асветніцкіх, культурных установаў нашых краін — тэатраў, музычных калектываў, музеяў, якія і так добра сябруюць паміж сабою, імкнуцца везці свае ініцыятывы ў Літву ці, наадварот, у Беларусь.

Абмяркоўвалася і пытанне усталявання ў Вільнюсе мемарыяльнай дошкі, прысвечанай народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу. Са сталіцай Літвы звязаны істотны перыяд у жыцці класіка беларускай нацыянальнай літаратуры. І вырашыць клопат з усталяваннем мемарыяльнай дошкі ўпярэдадзень 135-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа — справа надзвычай актуальная.

У 2017 годзе літоўскі бок збіраецца болей прадстаўніча ўдзельнічаць у славутым кінафестывалі «Лістапад». Так што аматарам, знаўцам літоўскага кіно можна спадзявацца на добрыя і цікавыя сустрэчы. Як і ўвогуле нашым культурам. На сучасным этапе трэба болей стасавацца, болей быць уважлівымі адзін да аднаго. І гісторыі, і сучаснасці гэта толькі на карысць.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

*Вільнюс — Мінск.*

# «Ён быў класічна дакладны ў слове»

**Так адразу і не скажаш, якога Алеся Пісьмянкова згадваюць сёння найчасцей: выбітнага лірыка, чыё імя ў паэзіі прыкметнае і праз дванаццаць гадоў пасля яго смерці, заўчаснай, трагічнай, ці найперш светлага, шчырага чалавека, што за іншых перажываў як за сябе, калі не болей?..**

Для мяне ён найперш паэт, які адкрыў свет сучаснай беларускай літаратуры — абноўленай, жывой, без гнятлівага ценю бронзавых класікаў. Праз гады ён стаў для мяне яшчэ й легендарным калегам — колішнім галоўным рэдактарам «Літаратуры і мастацтва». На вечары памяці Алеся Пісьмянкова, што прайшоў напярэдадні дня яго нараджэння ў музеі Максіма Багдановіча, найбольш казалі пра тыя чалавечыя якасці, якія заўжды ўражваюць, калі падумаць пра іх усур'ёз: гэта абсалютовая адсутнасць эгаістычных памкненняў ды сябелюбства, гэта вялікі талент у звязе са сціпласцю, гэта чуйнасць, якая, на маю думку, усё ж сведчанне не Паэта, але Чалавека.



Алесь Пісьмянкоў.



Алена Пісьмянкова, удава паэта.

Арганізатарам вечарыны выступіў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры; вядоўца — Навум Гальпяровіч, сапраўдны, неназваны, сябра Пісьмянкова, з якім звёдаў нямала пацешных прыгодаў і з якім, відаць, не раз дзяліў сум.

Многія, хто ведаў Алеся Пісьмянкова, пасля яго заўчаснага сыходу пачуваюцца сіратліва: яны згубілі чалавека, які заўжды выслухае, які без слоў зразумее, падтрымае. Пра тое ж казаў і Васіль Зуёнак: «Ён заўсёды выслухае чалавека, пажартуе, пасмяецца, слова шчырае скажа. І людзі ставіліся да яго з прыязнасцю». Гэтаксама спадар Васіль падзяліўся сваім меркаваннем датычна паэзіі Пісьмянкова: «Ён быў класічна дакладны ў слове. Верш — дзве-тры страфы, а малюнак выразны й завершаны. У яго было вока мастака-жывапісца, якое заўважала ўсе фарбы. З аднаго боку, ён быў тонкі акварэліст: летнія, лёгкія фарбы… І з іншага боку, ствараў графічныя, кантрасныя малюнкі: чорныя дрэвы, голы сад на фоне белага-белага снегу… І дым да неба… Пісьмянкоў — унікальны паэт. Ён адзіны аўтар, разбору чыйго верша Алесь Разанаў прысвяціў некалькі старонак. Аднаго верша!..»

Алесь Пісьмянкоў існаваў як бы па-за часам. Аднолькава лёгка сыходзіўся са значна старэйшымі калегамі і з моладдзю. Навум Гальпяровіч згадвае: «Ён мог паваніць і сказаць: "Навум, зайдзі, у мяне сімпатычны чалавек тут сядзіць". Гэта мог быць і Ніл Гілевіч, і малады Янка Лайкоў. Кожны ў яго быў "сімпатычны чалавек"».

Пра пашанотнае стаўленне Пісьмянкова да землякоў-магілёўцаў гэтаксама казалі не раз, у тым ліку прадстаўнік таго самага «зямляцтва» Віктар Карамазаў. «Вялікая сціпласць, глыбокая народнасць, інтэлігентная стрыманасць. Ён з тых людзей, якім абсалютна не ўласцівая самарэклама».

Уладзімір Ягоўдзік прызнаўся, што ў кожнай ягонай дзіцячай п'есе, якая патрапіла на сцэну, гучаць вершы Пісьмянкова.

Але найбольш чаканыя госці вечара — брат Алеся Пісьмянкова Мікола і Алена Рыгораўна, галоўная жанчына ў жыцці паэта.

— Я меў шчасце мець брата і меў няшчасце згубіць яго... Я разумею: для літаратуры гэта вялікая страта. Але для мяне самае важнае — брат, які ў маім жыцці стаўся лёсавызначальным. Тое, што я сёння сабой уяўляю, шмат у чым — ад брата, — перамагаючы эмоцыі, казаў спадар Мікола. — Ён ніколі не навязваў сябе, але я заўсёды адчуваў яго клопат. І калі мне было добра, і калі я хварэў, ён заўжды быў побач, і кожны яго тэлефонны званок заканчваўся словамі: "Не знікай".

Звыклы лірычны настрой такіх вечароў-успамінаў напрыканцы нечакана парушыла пані Алена Пісьмянкова.

— Мой муж заўжды казаў калегам: вы пасля палітыкі, пісьменнікі — але найперш вы людзі. Ці не так?.. Я вельмі рада, што гэтая зала сабрала сапраўды людзей, якія вельмі тонка адчуваюць чужы боль. ...Я заўжды буду памятаць, як прыйшлі з «Вожыка», як сказалі, як я не паверыла і закрычала, што гэтага не можа быць: яшчэ раніцай я развіталася з мужам — а цяпер мне кажуць, што яго няма!.. Чаму хуткая дапамога, у цэнтры Мінска, ішла паўгадзіны?.. Так, вядома, што Алесь у той момант рэдагаваў разам з дзеўчынай яе вершы. У рэдакцыі амаль нікога ўжо не было, калі тая залямантавала і пачала клікаць на дапамогу...

І ўжо калі вечар скончыўся і госці пачалі разыходзіцца, пані Алена спахапілася: яна прынесла падарунак для музея гісторыі літаратуры. Гэта ліст Ніла Гілевіча Алесю Пісьмянкову, датаваны 2002 годам, калі спадар Алесь быў галоўным рэдактарам «ЛіМа». Пры першай жа нагодзе ліст будзе экспанаваны.

**Наста ГРЫШЧУК, фота аўтара.**



Мікола Пісьмянкоў, брат паэта.

## З АКЦЭНТАМ НА ТВОРЧАСЦЬ

**Паэты, пісьменнікі, навукоўцы ды ўвогуле неабыякавыя да творчасці Алеся Пісьмянкова людзі сабраліся ў Доме дружбы Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**

Сустрэча прайшла з акцэнтам на творчасці. Спадчына выхадца з Магілёўшчыны ўражвае: гэта і вершы, і песні, і паэтычныя зборнікі.

— Паэты не паміраюць, з намі жывуць іх вершы, — запэўніў журналіст, паэт і вядучы імпрэзы Навум Гальпяровіч. — Вершы, напісаныя Алесем Пісьмянковым, што з'яўляліся ў кнігах і часопісах, гучалі на радыё і на яго выступах, вершы, зробленыя спецыяльна для дзяцей, — усё гэта засталося з намі. Алесь пражыў кароткае жыццё, але вельмі многа зрабіў для літаратуры.

Госці імпрэзы чыталі знаёмыя радкі ў слайдах прэзентацыі, услухоўваліся ў іх ад выступоўцаў са сцэны. Прадэкламаваць вершы сабраліся не толькі сябры і знаёмыя паэта. З нагоды вечара памяці студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта вывучылі творы Алеся Пісьмянкова на памяць каб прачытаць перад аўдыторыяй. Арганізатар імпрэзы, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы Ніна Іванова заначыла:

— Я думаю, кола сяброў Алеся — не толькі тыя, хто ведаў яго асабіста. Моладзь, з якой мы рыхтавалі сённяшнюю імпрэзу, таксама будзе «сябраваць» з паэтам.

Навум Гальпяровіч нагадаў, што летуценнік Алесь Пісьмянкоў шмат працаваў! Як карэспандэнт у аддзеле крытыкі і бібліяграфіі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», а яшчэ — пісаў для часопісаў «Полымя» і «Вожык». Некалькі год Алесь Пісьмянкоў быў галоўным рэдактарам «ЛіМа», потым узняўся да сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі. Чулага кіраўніка любілі супрацоўнікі, бо ён знаходзіў падыход да кожнага.

У Доме дружбы нельга было не згадаць, што ў Алеся Пісьмянкова заўсёды было шмат сяброў. Кажуць, паэт прыцягваў людзей нязменнай дабрынёй і энергіяй, з ім хацелася сустракацца, размаўляць, сябраваць. На вечар памяці да Алеся Пісьмянкова сабраліся паэты Мікола Мятліцкі, Зіновій Прыгодзіч, Мікола Шабовіч, Ганад Чарказян, прафесар і перакладчык Іван Чарота, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка ды шмат іншых.

Вершы жывуць доўга, калі яны напоўненыя не толькі зместам, але і глыбокім пачуццём. Сапраўдная паэзія выклікае зваротныя эмоцыі ў чытача. Госці імпрэзы яшчэ раз пераканаліся ў гэтым падчас выступу паэта Міколы Мятліцкага. Ён прачытаў перад аўдыторыяй і верш Пісьмянкова «Стараверы», і свой верш, які прысвяціў памяці сябра.

— Мы прыйшлі ў літаратуру ў той час, калі былі жывыя класікі беларускай паэзіі: Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пятрусь Броўка ды іншыя, — згадаў Мікола Мятліцкі. — Алесь Пісьмянкоў нароўні ўваходзіў у гэты шэраг. І зараз яго творчасць годна вытрымлівае спаборніцтва з творчасцю наступнага пакалення паэтаў.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Чытанне павінна быць модным, а пісьменнік — пазнавальным

## Беларуская літаратура ў інфармацыйным грамадстве

**У апошняе дзесяцігоддзе шмат спрэчак і дыскусій вядзецца датычна спецыфікі існавання/«выжывання» літаратуры ў эпоху інтэрнэту, у новай інфармацыйнай рэальнасці.**

Пераасэнсоўваюцца месца і роля літаратуры ў жыцці сучаснага грамадства ўвогуле. У інфармацыйную эпоху не толькі трансфармуецца характар сацыякультурных камунікацый, але і адбываюцца кардынальныя змены ў самасвядомасці чалавека. Змяняюцца як мастацкія практыкі, так і каналы распаўсюджвання мастацкіх твораў, абнаўляецца змест саміх паняццяў *мастацкі твор, творчасць*. З'яўляецца новая эстэтыка, заснаваная на паняццях інфармацыйнай эпохі.

Асабліва шмат пытанняў у гэтай сітуацыі выклікаюць перспектывы беларускай літаратуры. Арыгінальныя і змястоўныя падыходы да праблемы прапанаваныя ў артыкуле І. Шауляковай-Барзенка **«Беларуская літаратура ў інфармацыйным грамадстве: пагрозы як гарантыя перспектыў»**, надрукаваным у «Полымі» (2017, № 1). Даследчыца абірае міждысцыплінарную метадалогію вывучэння праблемы, абапіраецца на работы Ф. Уэбстэра, М. Кастэльса, Э. Тофлера, іншых філосафаў, сацыёлагаў, культуролагаў, у цэнтры асэнсавання якіх — праблемы постіндустрыяльнай цывілізацыі.

Будова артыкула вызначаецца акадэмічнай дакладнасцю і выверанасцю высноў, што ўвогуле характарызуе крытычныя выступленні І. Шауляковай-Барзенка. Яе публікацыі — заўсёды са «знакам якасці»: выключная навуковая база, абазнанасць у найноўшых тэндэнцыях развіцця айчыннай і сусветнай літаратуры, у спецыфіцы сучаснай культурнай сітуацыі. У пачатку артыкула І. Шаўлякова-Барзенка падае найбольш істотныя характарыстыкі «інфармацыйнага» («постэканамічнага», «постіндустрыяльнага», «інфармацыянальнага») грамадства. Беларуская літаратура XXI стагоддзя характарызуецца як літаратура класічнага тыпу, што з'яўляецца істотным для вызначэння шляхоў пераадолення актуальных для нацыянальнага мастацтва слова пагроз і рызык. Уласна самі рызыкі І. Шаўлякова падзяляе на экзагенныя (знешнія, пазалітаратурныя) і эндагенныя.

Да экзагенных аўтар артыкула адносіць пагрозу «самаізалявання і герметызацыі». Выснова слушная. Парадокс: сучасная беларуская літаратура надзвычай цікавая, багатая на імёны і вартыя творы, але чытаюць гэтыя творы, як правіла, тыя, хто мае непасрэднае дачыненне да самой літаратуры: студэнты філалагічных спецыяльнасцей, выкладчыкі, крытыкі, прадстаўнікі творчых прафесій. Падкрэслю: як правіла. Неяк Ягор Конеў падлічыў, што колькасць патэнцыйных чытачоў беларускай літаратуры складае недзе тысячу чалавек (якраз на той момант колькасць студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей; а сёння — яшчэ менш). І такая сітуацыя характэрная не толькі для беларускай літаратуры. Шмат напісана-сказана пра зніжэнне цікавасці да літаратуры/чытання ў апошнія дзесяцігоддзі ўвогуле.

І. Шаўлякова не толькі «дыягназуе» праблему, але і прапаноўвае канкрэтныя захады; стратэгічны характар мыслення дазваляе ёй у пагрозах убачыць магчымасці для іх пераадолення.

Перш за ўсё І. Шаўлякова гаворыць пра неабходнасць «выпрацоўкі стратэгій фарміравання сучаснай нацыянальнай прасторы чытання (звязаных у ліку іншага з інтэнсіўным асваеннем Сеціва)». І тут наша літаратура, на мой погляд, на вышыні: інтэрнэт-блогі пісьменнікаў, шматлікія літаратурныя сайты, старонкі ў фэйсбук, літаратурныя інтэрнэт-суполкі: «Сучасная беларуская літаратура», «Я♥дзядзьку Караткевіча», «★Максіма Багдановіча» *(http://vk.com/club6071256), http://litara.net/, http://kamunikat.org/, http://knihi.com/, http://krytyka-by.livejournal.com/, http://lit-krytyka.livejournal.com/* (сучасная літаратурная крытыка, літаратурная журналістыка, літаратуразнаўства, кніжныя агляды), *http://by-litara.livejournal.com/, http://bellib.net/* (беларуская літаратура ў перакладах на замежныя мовы і замежная літаратура ў перакладах на беларускую мову), сайты пісьменнікаў *(http://www.arlou.org/, http://balachonau.puls.by/)*. Пра ролю пісьменніцкіх блогаў у літаратурнай прасторы ў свой час пісалі Лада Алейнік і Маргарыта Аляшкевіч.

Прыкладам надзвычай удалых і паспяховых інтэрнэт-праектаў можна назваць выданне Андрэем Горватам кнігі «Радзіва Прудок», што стала адной з самых рэзанансных кніг апошняга часу. Кніга А. Горвата была выдадзеная накладам 650 экзэмпляраў (роўна столькі, колькі людзей замовіла і аплаціла кнігу праз краўдфандынгавую пляцоўку «Талака»). Вельмі добры паказчык для нашага часу. Пазней быў надрукаваны дадатковы наклад у 1000 экзэмпляраў, бо не ўсе ахвотныя здолелі замовіць «Радзіва Прудок» у лістападзе. І гэты наклад разышоўся цягам двух дзён, што з'яўляецца рэкордам для Беларусі. Зараз надрукаваны яшчэ адзін, 2000-ы, наклад. І гэта надзвычай аптымістычны прыклад таго, якую ролю можа адыграць інтэрнэт у папулярызацыі мастацкіх твораў. За кнігу Андрэя Горвата прагаласавалі непасрэдна чытачы, інтэрнэт-супольнасць. Фено-



мен Горвата пацвярджае, што з'явілася новая сістэма ўзаемаадносін "творца — чытач", дзе вырашальную ролю адыгрываюць сацыяльныя сеткі.

Між іншым маем сур'ёзную нагоду для аптымізму: беларуская літаратура запатрабаваная, запатрабаваныя друкаваныя кнігі. Тут можна ўзгадаць і праекты «Шэрлак Холмс па-беларуску», «"Свінка Пэпа" па-беларуску», «Беларускія казкі для *iphone* і *ipad*», рэалізаваныя праз краўдфандынгавую пляцоўку «Талака». Надзвычай удалымі атрымаліся праекты ад «*Velcom*» «Чытаем па-беларуску з *Velcom*» і праект «*Movabox*». З уласнага досведу работы з настаўнікамі ведаю, што праект «*Movabox*» карыстаецца папулярнасцю сярод школьнікаў, вучні дзякуючы «*Movabox*» і «*Velcom*» зацікавіліся «Авантурамі Пранціша Вырвіча» Людмілы Рублеўскай.

Тое, што нашы пісьменнікі актыўна засвоілі інтэрнэт, абнадзейвае. Ізноў жа, з уласнага досведу выкладання літаратуры ведаю, што сённяшні студэнт найперш пашукае патрэбны твор у інтэрнэце, чым пабяжыць у кнігарню ці бібліятэку. Часам студэнты самі знаходзяць цікавыя інтэрнэт-праекты і «дзеляцца» імі з калегамі.

Адным са шляхоў пераадолення пагрозы «герметызацыі» магла б стаць больш шырокая рэалізацыя рэкламнага патэнцыялу сродкаў масавай камунікацыі. Напрыклад, неабходна часцей запрашаць пісьменнікаў, крытыкаў, даследчыкаў літаратуры ў якасці экспертаў на розныя ток-шоу. Пісьменнікі павінны быць пазнавальнымі.

Такім чынам, сёння стаіць задача фарміравання «попыту» на чытанне. Чытанне павінна быць модным.

З іншага боку, у гэтым кантэксце можна паразважаць і пра небяспеку інфармацыйнай маніпуляцыі, пра ролю рэкламы, інтэрнэт-піяру, самарэкламы і «тэхналогій прасоўвання» твораў і творцаў. Часам гэтае «прасоўванне» мае на мэце не пазнаёміць *чытача* з сапраўды вартым творам, а сфарміраваць попыт у патэнцыйнага *пакупніка*. Гэта спрацоўвае на першым этапе. Але ў далейшым, пасля завяршэння рэкламнай кампаніі, урэшце, пасля прачытання «раскручаных» і модных твораў, — ціша. Што досыць паказальна: *much ado about nothing* (шмат шуму з нічога). Кідкая абгортка з пустым зместам. Працэс камерцыялізацыі творчасці негатыўна ўплывае на літаратуру. Мастацкі твор не можа, не павінен быць толькі *таварам*.

З іншага боку, стратэгія ад адваротнага, «адсутнасць» пісьменніка ў інтэрнэце таксама можа быць удалай маркетынгавай стратэгіяй, надае аўтару нейкі арэол элітарнасці.

Яшчэ адну рызыку для літаратуры І. Шаўлякова бачыць у «стандартызацыі, тэхналагізацыі так званага культурнага прадукту», што прыводзіць да маргіналізацыі. Сапраўды, літаратура сёння становіцца праектнай і тэхналагічнай. Але ж дзе ёсць тэхналогія, ці ёсць творчасць? Літаратура — гэта запытанне. А ці ёсць у сучаснага чытача запытанне? Канешне, такія чытачы ёсць, але не яны фарміруюць попыт на творы. А для так званага масавага чытача літаратура — магчымасць задаволіць часта не вельмі глыбокія запыты і густы. Зразумела, творца не павінен зніжаць узровень свайго таленту да густаў масавага чытача, але часцей творы глыбокія, тыя, што вымагаюць сур'ёзнай унутранай работы, застаюцца ў цені, «не раскручанымі», па-за ўвагай чытача. Скажам, творы Марыі Вайцяшонак, надзвычай глыбокага аўтара. І прыклады можна доўжыць.

Далей І. Шаўлякова называе «*пагрозы негатыўнай элітарнасці»* («павелічэнне камунікатыўнага разрыву паміж творамі найноўшай нацыянальнай літаратуры і так званай шырокай чытацкай аўдыторыяй») і «*этнаграфічнасці*» («актыўнае нежаданне грамадскасці быць абазнаным у сучаснай нацыянальнай літаратуры вынікам мае стэрэатыпізацыю ўспрымання найноўшага мастацтва слова ў духу "музейнасці", "этнаграфічнасці"»). І. Шаўлякова канстатуе наяўнасць у беларускай культуры «ідэнтычнасці абарончага кшталту», што кваліфікуецца ёю як негатыўны фактар. Выйсце, паводле аўтара артыкула, у «трансфармацыі ідэнтычнасці абаранальнай у ідэнтычнасць праектнага кшталту». І сітуацыя інфармацыйнага грамадства дае для гэтага шырокія магчымасці.

Другая група рызыкаў, згодна з І. Шаўляковай, звязана з рызыкамі эндагеннага (унутрылітаратурнага) кшталту. У гэтым раздзеле артыкула даследчыцай пададзены дакладныя ацэнкі сённяшняй літаратурнай сітуацыі: узрастанне ролі нацыянальнай аксіялогіі, неаміфалагізацыя мастацкай свядомасці, самарэгенератыўнасць. Нельга не пагадзіцца з аўтарам. Беларускія культуролагі ўжо не адно дзесяцігоддзе пішуць пра павелічэнне значнасці нацыянальных каштоўнасцей ва ўмовах глабалізацыі. І сёння беларуская літаратура падтрымлівае ў часе «нацыянальную наратыўную тоеснасць» (С. Андрусіў). У адным з артыкулаў са зборніка «Сапраўдныя хронікі Поўні» І. Шаўлякова падкрэслівала: «Нягледзячы на стракатасць мастацкіх дэкларацый і матывацый, беларускія пісьменнікі і сёння ўскладаюць на сябе місію фарміравання "вобраза Нацыі"».

Самарэгенератыўнасць жа, на думку І. Шаўляковай, нясе пагрозу рэтардацыйнасці. Пераадоленне названай рызыкі бачыцца І. Шаўляковай у «пошуках новых кодаў… з дапамогай якіх анталагічна важная праблематыка занатоўвалася б у сучаснай сацыякультурнай прасторы як востра актуальная».

І. Шаўлякова разважае пра становішча сучаснай крытыкі і пра змены, якія адбыліся з крытыкай у апошні час, пра з'яўленне літаратурнай журналістыкі, «карыстальніцкай крытыкі», гаворыць пра рызыку «нефункцыянальнасці экспертнай (прафесійнай) крытыкі, а таксама звязаную з гэтай рызыкай пагрозу татальнай "прафанацыі" крытычных ацэнак — усталяванне дыктату прафаннай ацэнкі літаратурных з'яў». І тут І. Шаўлякова задае новы ракурс для разважанняў. У апошні час у нас знікла так бы мовіць «разгромная» крытыка. Крытыка, якая б «называла рэчы сваімі імёнамі». І знікла яна таму, што сёння друкуецца столькі графаманскіх твораў, што адгукнуцца на іх не стае фізічных сіл. Таму сігнал для пісьменніка: калі пра вас не пішуць, значыць, трэба задумацца над вартасцю сваіх твораў. На вартыя творы/кнігі крытыка заўжды адгукнецца.

Таксама абазначылася сур'ёзная праблема ў тым, што з'явілася «кланавая», карпаратыўная крытыка, калі крытык займаецца прасоўваннем твораў пісьменнікаў свайго кола, асяроддзя. Як некалі справядліва выказаўся Л. Галубовіч, «іерархію і вядомасць (ад слова «весці») вызначаюць не аб'ектыўнасць незалежнай крытыкі (ці хоць бы яе незалежная суб'ектыўнасць), а паспешлівыя і прагматычныя высновы і ацэнкі абслугоўваючай касты літаратурных журналістаў (не толькі ў літаратурна-мастацкіх, але і ў перыядычных грамадска-палітычных СМІ) разам з прабіўнымі магчымасцямі і кар'ернымі здольнасцямі самых паэтаў…».

З іншага боку, нават улічваючы гэтую сітуацыю, варта падумаць над стварэннем пляцовак, дзе б крытыкі «з розных карпарацый» маглі б абмяняцца думкамі, падыскутаваць.

Праблемы і падыходы, пастаўленыя ў артыкуле І. Шаўляковай, задаюць вектары для сур'ёзнага абмеркавання многіх праблем.

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

# Кантрасты і неспадзяванкі




**Выдатна**. Апавяданне Людмілы Рублеўскай «Я ніколі не стану лётчыкам» зноў вяртае нас да тэмы палітычных рэпрэсій 1930-х гадоў. Але не толькі. Юная дзяўчына Магдалена згаджаецца на любошчы са следчым НКУС дзеля таго, каб дапамагчы свайму каханаму — выпускніку Мінскай мастацкай вучэльні Вадзіму Нарушэвічу, якога арыштавалі за тое, што ён *«не вельмі ўдала намаляваў канаючага ў ванне героя камуны Марата» («...у самім сюжэце ёсць намёк на забойства Кірава, ёсць і прыкметы буржуазнага фармалізму»)*. Вадзіма ўрэшце не вызваляюць, прысуджаюць да пяці гадоў высылкі, а Магдалена страчвае цнатлівасць, веру ў людзей і ўзнёслае пачуццё кахання, не чытае нават лістоў, што дасылае ёй Вадзім з высылкі. У аснове твора — маральна-псіхалагічная праблема. Эпоха пазначана толькі неабходнымі каларытнымі апісаннямі, а вось тонкіх псіхалагічных дэталяў у апавяданні сапраўды вельмі многа. У асобную тэму магло б развіцца тое, пра што маўчыць маці галоўнай гераіні, прыгадваючы свае маладыя гады. У маленькім апавяданні — і кароткі курс гісторыі Беларусі першай трэці XX стагоддзя, і трагедыя двух жаночых лёсаў, і водгулле болю па некалькіх знішчаных пакаленнях беларускай інтэлігенцыі... Застаецца дадаць толькі, што ўсё гэта — у выдатным мастацкім выкананні.

**Сумніўна**, што просты пераказ знакамітых старонак дзённіка Кузьмы Чорнага можа ўразіць чытача ці, прынамсі, адкрыць нешта новае. Таму задума Ігара Аўласенкі, увасобленая ў нарысе «Апошняя споведзь Кузьмы Чорнага» (паводле дзённіка пісьменніка), застаецца не зусім зразумелай. Твор «завіс» паміж нарысам і апавяданнем, аднак ні мастацкай, ні псіхалагічнай глыбіні, на жаль, не дасягнуў.

**На суд чытача** вынес часопіс «Полымя» апавяданні маладых рускіх літаратараў Алены Тулушавай (пераклад Максіма Пятрова), Андрэя Цімафеева і Алёны Белаусенкі (пераклад Юліі Алейчанка). Безумоўна, гэта цікавае знаёмства: маладая руская проза развіваецца ў іншых тэматычных напрамках. Вылучаюцца сярод усіх апавяданні А. Цімафеева.

***

**Выдатна**. У новым нумары «Нёмана» шмат цікавых публікацый, але самымі бездакорнымі падаюцца вершы Алены Кісель і Васіля Макарэвіча.

Каты і коткі цяпер у трэндзе, але цыкл Алены Кісель «Коткіны сны» — гэта не захопленыя вершыкі пра мілых пухнатых стварэнняў, а магчымасць адчуць усю таямнічасць залежнасці прыручанай жывёлы ад чалавека, калі дзіўнае пачуццё доўгія гады трымае побач з намі чатырохлапых гадаванцаў. Аўтар прапануе паглядзець на справу вачыма ката — атрымліваецца сур'ёзна, кранальна і сумнавата, бо кашэчыя мары пра гаспадара здзяйсняюцца не заўсёды...

Сумуюць па гаспадарах і пакінутыя вясковыя хаты. Васіль Макарэвіч піша пра іх як колішні цясляр, дасведчана распавядае, як і з якім настроем яны будаваліся. Невясёлая рэчаіснасць чытаецца між радкоў: хаты таксама чакаюць чалавека.




**Сумніўна**. Аповесць Юрыя Пялюшонка «Жняцы» прапануе далучыцца да чароўнага каравана: служка Творцы, які сілкуецца энергіяй дабрыні і любові, і служка Гаспадара, які сілкуецца энергіяй зла і пароку, разам вандруюць па свеце і збіраюць ураджай. Цікаўны юнак Фама прыкметна ажыўляе іх кампанію. Размова між героямі тычыцца экзістэнцыяльных пытанняў, жыццёвых праблем і супярэчнасцей чалавечай душы. Побач з арыгінальнымі меркаваннямі з вуснаў падарожнікаў часам гучаць і трывіяльныя ісціны, але найбольш рызыкоўным падаецца спалучэнне глыбакадумнасці і камізму. Аўтар нібы баіцца быць сур'ёзным і часта аздабляе філасофскія размовы жартамі ды пацвельваннямі. Гэта адмысловае спалучэнне, якое нагадвае жанр школьнай драмы, можа падацца дзіўным для сучасніка. Увогуле ж у творы шмат дасціпных думак і алюзій на сённяшнія рэаліі, таму твор Юрыя Пелюшонка прывабіць тых, хто любіць паразважаць над літаратурай.

**На суд чытача**. Аповесць Георгія Захарава «Будні крымінальнага вышуку» прысвечана дзейнасці Упраўлення міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС БССР у 1926 годзе. Супрацоўнікі ўпраўлення не займаюцца палітычнымі справамі, таму аўтар распавядае пра раскрыццё гучных злачынстваў, кантрабанду, разборкі крымінальных банд, стварае партрэты інспектараў упраўлення — людзей розных па паходжанні і нацыянальнасці, але адданых сваёй справе. Мінск 1920-х гадоў — горад кантрастаў і неспадзяванак: рабаўнікі трапляюць у ювелірную краму праз падземны ход, дзяўчаты цікавяцца модным адзеннем з Польшчы і абмяркоўваюць «пытанні прапаганды камуністычных ідэй сярод жанчын»... У аповесці нямала штампаў афіцыйна-справаводчага стылю, аўтару імпануе лёгкасць, з якой раскрываюцца злачынствы, таму ён не імкнецца ўскладняць падзеі, як зрабіў бы гэта белетрыст. Адпаведна, твор чытаецца аператыўна і дазваляе лепш уявіць жыццё беларускай сталіцы ў 1920-я гады.

***

**Выдатна**. Нягледзячы на тое, што самыя вядомыя радкі пра люты належаць паэту, лютаўская «Маладосць» найперш уражвае сваім празаічным складнікам. Прытым «выдатна» можна сказаць не толькі пра самі тэксты, але й пра падбор аўтараў: за сталых аўтараў прамаўляе Валер Гапееў, за моладзь — Дзмітрый Рубін, які, да ўсяго, прадстаўляе яшчэ і «Маладосць» (падвойная адказнасць). Знаёмства непасрэдна з тэкстамі раскрывае наступную цікавостку: Валер Гапееў разглядае жыццё моладзі ў школьным рамане «Мая мілая ведзьма», а Дзмітрый Рубін у шэрагу апаведаў (навел?) — «Дарога, пакрытая поўсцю», «Прафесіяналізм», «Па трамвайных рэйках», «Беларуская рулетка» — адасабляецца ад свайго ўзросту і замахваецца на праблемы абстрактныя ды вялікія (прыкладам, нацыянальнае пытанне), прычым найчасцей спроба дакапацца да праўды адлюстроўваецца праз рэфлексію чалавека, здольнага думаць. Дадамо да моцнага празаічнага складніка пераклады апаведаў Герберта Уэлса.

**Сумніўна**, што выкарыстаныя ў якасці эпіграфаў радкі Віктара Цоя ды іншых рок-музыкаў дададуць мастацкай моцы й выразнасці паэме, што грунтуецца адно на сентэнцыях, якія не назавеш арыгінальнымі, ды шматлікіх (ці не залішніх?) эпітэтах. Размова ідзе пра «Вайну, прыдуманую мною» Міколы Адама. Так, вайна — нязменна драматычная тэма, але штораз паўтараючы слова «кроў», усю глыбіню гэтай чалавечай драмы не раскрыеш.




**На суд чытача** прапануем вершаваную нізку Наталлі Смерцьевай. «З літаратурным жыццём не атрымалася», — паведамляе невялікая біяграфія аўтара. «І зараз проста жыве, калі-нікалі звяртаючыся да паэзіі і прозы». Відаць, якраз у гэтым «калі-нікалі» і ёсць вялікая ўдача аўтара: калі б склалася, хто ведае, колькі прахадных радкоў было б надрукавана?.. Мы ж бачым паэзію, вартую ўвагі чытача. Цікава было б пазнаёміцца надалей з празаічнымі творамі спадарыні Наталлі.

**Жанна КАПУСТА,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Наста ГРЫШЧУК**

# Ля дрэва гваздзікі

**Студзеньскія нумары часопісаў пазнаёмілі чытачоў з кітайскай літаратурай — у лютым выпраўляемся ў Індыю. У перакладзе на рускую мову ў «Нёмане» прадстаўлены творы шасці індыйскіх аўтараў — тры апавяданні і нізка вершаў.**

Індыя паўстае краінай з адметным побытам, дзе дагэтуль шануюцца даўнія звычаі і традыцыі. Напрыклад, у апавяданні Яшпала (1903 — 1976) «Карвачаутх» апісваецца традыцыйнае індуісцкае свята замужніх жанчын, калі яны трымаюць пост і нават не п'юць вады, каб у наступным жыцці сустрэць свайго мужа. Аднак пісьменнік не ідэалізаваў маленькі жаночы подзвіг дзеля кахання — у апавяданні дэманструецца складанае становішча жанчыны ў патрыярхальным грамадстве, калі мужчына ставіцца да жонкі як да нявольніцы, як да сваёй уласнасці, а не як да роўнага сабе чалавека, вартага павагі і зычлівасці. Адсюль вынікае праблема сямейнага гвалту: жанчына лічыць, што вымушана скарыцца лёсу, а мужчына, пабіўшы жонку, робіцца яшчэ больш жорсткім. «А што можа п'яніць больш за адчуванне сваёй улады і сілы? <...> Гэты хмель не мае межаў. І рука Канхая ўздымалася ўжо па звычцы, не чакаючы, пакуль ён прыйдзе ў стан гневу».

Апавяданне «Права на пакуту» прысвечанае іншаму даўняму звычаю: пасля смерці дзіцяці маці трынаццаць дзён не павінна выходзіць з дому, бо гэта час жалобы. Але што рабіць, калі старая гандлярка дынямі страціла сына і мае хворую нявестку і маленькіх унукаў, якіх трэба нечым карміць? Пісьменнік разважае пра тое, што людзям найвышэйшых класаў складана зразумець бедных, але жыццёвыя абставіны могуць скласціся так, што нават падчас «сутакі» кабеце даводзіцца ісці на рынак...

Уша Прыямвада ў апавяданні «Вяртанне» таксама звяртаецца да псіхалогіі сямейных адносін. У Індыі часта атрымліваецца так, што мужчына, які займае значную пасаду, жыве ў іншым горадзе, асобна ад сваёй сям'і. Калі ж у сталым узросце атрымліваецца назаўсёды вярнуцца дадому, з'яўляецца адчуванне адчужанасці і непатрэбнасці. Мужчына адказвае за дабрабыт, але доўгія гады адсутнасці выключаюць яго з сямейнага жыцця, і вырашыць гэту праблему часта ўжо немагчыма.

Трагедыйнасць, патэтычнасць, сентыментальнасць асобных твораў з вершаваных падборак дэманструе, наколькі адрозніваецца лад паэзіі ў розных нацыянальных літаратурах. Вершы Удаса Нарэша Кумара, Азада Лары, Раа Ліны Малхторы і Прамчанда Гандзі — яркія замалёўкі з таямнічай Індыі, у якіх адчуваецца дзівосная адухоўленасць і пашана да даўніх традыцый.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Заяўка ў празаікі

**«Сціплы, шчыры, геніяльны» — апісвае сябе Дзмітрый Рубін, аўтар лютаўскай «Маладосці». Следам можна дадаць «амбітны, удумлівы, іранічны». Прычым, як у прозе, так і ў вершах. Балазе, гэты аўтар прадстаўляе свае наробкі ў абодвух родах творчасці.**

Казаць пра нейкую сталасць у дачыненні да спадара Дзмітрыя пакуль не выпадае. Яго проза ўсё яшчэ гучыць злосна-задзірыста, так бывае ў празаікаў-пачаткоўцаў, якія ў адзін прыўкрасны момант усвядомілі недасканаласць і двурушнасць свету ды вырашылі адкрыць на гэта вочы сваім патэнцыйным чытачам. Гэтаксама адчуваецца супярэчлівае жаданне адначасова прывабіць чытача, зрабіць яго сваім аднадумцам і шакаваць, паказаць, што меркаванне каго б там ні было не мае для аўтара ніякага значэння. У гэтым не бачыцца самаўпэўненасць, што зазвычай вядзе ў нікуды: то хутчэй сапраўдная амбітнасць творцы, які адчувае ў сабе сілу слова і шмат з ім, гэтым словам, працуе.

Што да працы, яна заўважная: лаканічны, рублены сказ; праўдзівая мова героя; адсутнасць празмерных эпітэтаў. Але ў гэтым жа й слабіна аўтара. Калі праца заўважная, значыць, яе недастаткова.

Дзмітрый Рубін прадказальна задаецца пытаннямі годнасці чалавека, пакутлівага самавызначэння. Аднак сказаць пра нейкую пэўную праблему кожнага аповеду немажліва, бо Дзмітрый быццам бы абганяе ўласную думку. Замест прамога сцверджання экзістэнцыйных адкрыццяў (якія, часцей за ўсё, даўно ўжо й не адкрыцці) ён амаль наўслеп намацвае мяжу паміж умоўнымі дабром і злом, хлуснёй (у тым ліку — самападманам) і праўдай. Праўда ў яго заўжды гучыць востра, балюча, як аплявуха ўтульнаму філістарскаму існаванню.

Тое ж светапачуванне — у паэтычнай нізцы «Шматкі скуры». Тут Дзмітрый Рубін гэтаксама не дае волі эмоцыям: галоўнае — думка. Інтэлектуальная скіраванасць верша сведчыць пра няспынную самарэфлексію. Гэта даволі пакутліва, і нядзіўна, што ў вершах гучыць горыч, нязвыклая для маладзёна.

*Максім*
*Прабач што я да цябе на ты*
*Але ж я старэйшы*
*Ужо*
*На год*

І ўсё ж, разумеючы вартасць гэтых радкоў, нельга не зазначыць, што гэта якасна выказаны роздум, але не паэзія. Самакрытычнасць Дзмітрыя Рубіна імпануе і дазваляе ўскладаць на яго будучыню немалыя прафесійныя спадзяванні.

**Наста ГРЫШЧУК**

**Напярэдадні Міжнароднага жаночага дня «ЛіМ» прадстаўляе чытачам жаночую паэзію: вершы старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Святланы Быкавай з Заслаўя, лепельскай паэтэсы, сябра СПБ Святланы Якубоўскай і заснавальніцы Школы паэзіі «Лотас» Марыі Дзмітранок з Оршы.**

**Святлана БЫКАВА**



***

**Марыі Антонаўне Шакун**

*Чаму так цёпла на душы,*
*чаму так светла? —*
*Як быццам сонейка ўзышло*
*ў паўночны час*
*І выпраменьвае святло ўсяго Сусвету,*
*Каб знікла цемра і каб белы дзень*
*не згас.*

*А гэта проста на Зямлю зляцела*
*Зічка —*
*З нябёс упала шмат гадоў назад*
*Там, дзе валожынская б'е з зямлі*
*крынічка —*
*Скрозь асвятліла небасхіл і далягляд.*

*І той, каму ў жыцці пашчасціла*
*калісьці*
*Душой сагрэцца каля гэтага святла,*
*З усіх складаных лабірынтаў*
*знойдзе выйсце:*
*Ці не для гэтага, ты, Зорачка,*
*ўзышла?*

## Жывая сувязь

*Жыццё вясновае бруіцца:*
*Цвіце чаромха ля крыніцы,*
*Навокал розныя кузуркі*
*Факстроты танчаць і мазуркі.*

*Бярозкі — модніцы-паненкі,*
*Надзелі новыя сукенкі.*
*А вецер-зух па наваколлі*
*У пругкім гойдаецца голлі.*

*Пан-маладзік бадзёра крочыць*
*Па небе да каханкі-ночы,*
*А калі золак чырванее,*
*Ад смутку ён зусім бляднее…*

*Жывое ўсё вакол, жывое —*
*Сплятаюцца жыцця сувоі.*
*Вясной мацнее сувязь тая*
*І каранямі абрастае.*

## Начныя фантазіі

*Ноч… Белым срэбрам раскіданы*
*зоркі,*
*Месяц — бы яблык надкушаны горкі.*
*Па завуголлях варушацца цені:*
*Шэрыя, чорныя, розных адценняў —*
*Казачныя, фантастычныя здані —*
*Ноччу выходзяць яны на спатканне.*

*Шэпт, шамаценне… Даносяцца*
*словы*
*Замілавання і ціхай замовы…*
*Гэта наяве ці толькі мне сніцца?*

*Казку знішчае зара-зараніца:*
*Ночы таемнасць знікае, як цень —*
*Нованароджаны свеціцца дзень.*

## Надзея

*Надзею дораць казкі-сны…*
*Душа ў чаканні*
*Жывога подыху вясны,*
*Святога рання.*

*Мінулае — у небыцці:*
*Гады, падзеі…*
*Але не страчана ў жыцці*
*Яшчэ надзея,*

*Што спраўдзяцца падказкі-сны*
*Абавязкова:*
*Пачну на досвітку вясны*
*Я жыць нанова.*

## Сімфонія вясны

*Гудуць вясновыя званы,*
*Шыбуе па прасторах вецер.*
*Абтрос ён з дрэў аковы-сны*
*І вольна гойдаецца ў вецці.*

*Ён — кампазітар, дырыжор,*
*Як на цымбалах, грае ў голлі.*
*Пад кіраўніцтвам «мэтра» хор*
*Спявае гімны ў наваколлі.*

*Гучыць сімфонія вясны,*
*І што ні гук — акорд ці нота.*
*Чаруюць срэбныя званы —*
*Спяваць і жыць ад іх ахвота.*

**Святлана ЯКУБОЎСКАЯ**



## Беларускія народныя строі

*Якое хараство ў святочных строях,*
*Што блаславёнай дыхаюць зямлёю!*
*У іх душа Радзімы расцвітае,*
*У іх яна і плача, і спявае.*

*На іх арнамент з кветак залацістых*
*І першародных слоў крыштальна-чыстых.*
*У іх жывуць традыцыі, і тайны,*
*І яркі каларыт нацыянальны.*

*У іх гаючы водар васільковы,*
*Свет цёплых фарбаў, створаных з любові,*
*Акрэслены увішнымі рукамі —*
*Ён гартаваны мастаком вякамі.*

***

*Не раньце дзіцячыя душы.*
*Яны нібы кволыя краскі,*
*Што долу хінуцца ад сцюжы*
*І гінуць без вашае ласкі.*

*Пяшчотаю іх напаіце*
*І ад нягод захініце,*
*Ад крыўд, раўнадушша і болю,*
*Каб горкай не ведалі долі.*

*Сагрэйце краіну дзяцінства*
*Ласкавымі промнямі сонца —*
*І казка вам зможа адкрыцца*
*У сціплай дзіцячай далоньцы!*

## Слёзы маці

*Слёзы маці — як слёзы анёлаў,*
*Што пачуцці свае выкрасаюць*
*З суму, радасці, крыўды і болю, —*
*Незабудкамі ў нас прарастаюць.*

*Слёзы маці — як слёзы нябёсаў —*
*Тых, з якіх мы прымаем прычасце,*
*У якіх благаслаўленне мы просім,*
*Якім мольбы ўзносім аб шчасці.*

*Слёзы маці — як кроплі святыя,*
*Што душа трапяткая губляла.*
*Зразумела адно праз гады я:*
*Ёй любові маёй не хапала.*

***

*Паверце, свет заўсёды цесны*
*Без трапяткой, натхнёнай песні,*
*Без жыццярадасных мелодый,*
*Спагады, ласкі і пяшчоты.*

*Без смеху звонкага дзіцяці,*
*Таемных зорак у паглядзе.*
*Без мілых, ветлівых усмешак,*
*Без запаветных, мілых сцежак.*

*Паверце, свет заўсёды цесны*
*Без спеву птушак напрадвесні,*
*Без каларытнай, мудрай мовы,*
*Без Божага святога слова!*

## Сонейкі-словы

*Толькі для нас дваіх*
*Сонейкі-словы ўзыходзяць*
*І сярод фарбаў святых*
*У вечным гарацць карагодзе.*

*Колькі тых слоў трапяткіх*
*Сэрцам сваім выкрасаем,*
*Каб запаліць кожны міг,*
*Што на зямлі адкрываем.*

*З імі мы дзелім настрой,*
*З іх мы прымаем прычасце,*
*Іх мы даруем з табой*
*Чуламу сэрцу на шчасце!*



Фота Кастуся Дробава.

**Марыя ДЗМІТРАНОК**



## Спалучаны свет

**Мужу**

*Калісьці я жыла табою,*
*І ты калісьці мною жыў —*
*І свет з'яўляўся варажбою,*
*На гушчы шчасця варажыў.*

*Асобна, злучана, спантанна,*
*Раптоўна — кожны раз для нас.*
*Увесь каханнем перабраны,*
*Ён вырас у харошы час.*

*На летуценнях паражытых*
*Ён як скала цяпер ці зрок —*
*Твой час і мой, адна арбіта,*
*З жыцця планетнага аброк —*

*Яно спявае пад гітару,*
*І ў фартэп'яна слых яго,*
*І аб каханні яно марыць,*
*Як мы: адно для аднаго —*

*Сур'ёзна, зверана, аддана,*
*Навечна — для яго якраз.*
*І свет, каханнем перабраны,*
*Зноў вырасе ў харошы час.*

## Ружы

**Для безыменнай жанчыны,**
**якая ішла насустрач з ружамі**

*Сакавіцкае сонца. Сцюжа.*
*Да грудзей прыціснуты ружы,*
*Бы драбноткія немаўляткі.*
*На жаночым твары загадка.*

*Сінявокая то ўсміхнецца,*
*То сур'ёзнай раптам здаецца*
*І пяшчотна маленькія крые —*
*Вецер коле кветкі жывыя.*

*Гэтак хараша, гэтак мройна!*
*Сэрца б'ецца роўна, спакойна:*
*Трыццаць вёснаў у ім каханы,*
*Трыццаць вёснаў грэе пашана.*

## Гонар Радзімы

**Песня**

*Праменьчык абуджае дол,*
*Вадзіца сцюдзёнасцю кліча,*
*Лунае высока арол —*
*Прыроды адвага і звычай.*
*І кветкі ў лугах, бы званы,*
*І дрэвы ў лясах, бы тытаны,*
*А землі… а землі адны,*
*Дзе вырасці наканавана.*

**Прыпеў:**

*Гонар ёсць сваёй зямлі,*
*Гонар ёсць свайго народа —*
*Значыць, мы сябе знайшлі,*
*Значыць, ёсць у нас свабода!*

*Расцём — промень поўніць*
*цяплом,*
*Расцём — абмывае вадзіца,*
*Расцём — узлятаем арлом —*
*Прыроды адвага і звычай,*
*І рост адчуваюць лугі,*
*І ўзлёт прыкмячаюць дубровы…*
*Зямлі нарачонай даўгі —*
*Учынкі і родныя словы!*

**Прыпеў.**

***

*Не сваіх сцяжынак не шукаю,*
*Бо памкненне шчырае здаўна:*
*Запаліцца зорачкай над краем*
*І свяціць да самага відна —*
*Калі ўсе ўжо зоркі прачнуцца,*
*А ўсе жальбы ў пекла адляцяць,*
*Там з гарачым полымем зліюцца*
*І не прыйдуць болей з небыцця.*

*Крочыць трэба шляхам асабістым —*
*Так ямчэй прыгожае здабыць,*
*Бо яно накштальт вады празрыстай,*
*А навокал змешанасць кіпіць,*
*І, як тое ўвойдзе ў цяпельца,*
*Што ў вакольных, каб сумесна грэць,*
*Ужо не важна, цела ты ці цельца, —*
*Толькі б разгарэцца і гарэць.*

**1 сакавіка адсвяткаваў 70-годдзе паэт, празаік, сябар СПБ Алесь Камароўскі. Аўтар чатырох зборнікаў лірыкі, аповесцей «Адкрытая тайна», «Смаката», «Радаслоўны лісток», «Заварожаны мяч», «Пенальці», «Ахілесава пята» прадстаўляе чытачам урывак з рамана «Страла над Крутагор'ем».**



Алесь КАМАРОЎСКІ

# СТРАЛА НАД КРУТАГОР'ЕМ

*Урывак з рамана*

Вестawы звон на дазорнай вежы ўдарыў перад світанкам нечакана — жалезнае біла зачасціла аб літую медзь. Быццам папярэджваў: «Тры-во-га! Тры-во-га! Хут-чэй!» Паўсоннае вараннё спуджана выбухнула з найбліжэйшых дрэў і агаласіла ваколле хрыпатым карканнем.

Княжая дружына і апалчэнне апошнія тры ночы спалі ў кальчугах і латах, кладучы коп'і і мячы поруч. Таму воі хутка сабраліся, рассыпаліся па ўзыходных лесвіцах, занялі пасты наверсе драўлянай сцяны ля байніц. Узброеныя хто як, збіраліся да гарадскіх сцен. Прышлы люд, які пакінуў свае селішчы, хацінкі і майстэрні ў пасадзе, вылазіў з-пад вазоў, браў завостраныя пешні, рагаціны, сякеры, самаробныя булавы і бег да галоўных варот, дзе тысяцкі ці пасаднік скажуць, што рабіць далей.

Лагожск даўно рыхтаваўся да абароны: прыпасаў харч, каваў мячы, дзіды і коп'і, абнаўляў земляныя валы. Рака Гайна надзейна акружыла крапасныя ўмацаванні з трох бакоў, але чацвёрты бок, адкуль ішла галоўная дарога, быў адкрыты. Адсюль хутчэй за ўсё і нападзе вораг.

Каваль Бажадар надзеў на магутную грудзіну кальчугу, у левую руку ўзяў шалом, у правую — доўгі цяжкі меч, азірнуўся ў дзвярах, убачыў, як ускочыў з ляжанкі сын Іванка. Сказаў яму:

— Не суньcя туды, калі нападуць — стрэл будзе больш, чым граду…

Але ці магла спыніць Іванку бацькава перасцярога? Там жа, ля сцен, пэўна, будуць яго аднагодкі, Сцяпан і Грышка, у такіх жа, як і ён, латах з дубовых лёстачак, з такімі ж, як у яго, самаробнымі шчытамі. Хуценька абуўшы скураныя атопкі, хапіў латы, шчыт і рынуўся за дзверы. Маці, не паспеўшы спыніць яго, толькі рукамі ўсплеснула.

Мангольскі хан Койдан сем гадоў рыхтаваўся да гэтага паходу. Яму ў галоўнай стаўцы Залатой Арды снілася золата, аблітае крывёю хана Шэйбака. Той, паміраючы, паклікаў аднаго са сваіх нукераў-ахоўнікаў — Кутлук-бека і загадаў адыходзіць з абозам, па дарозе золата закопваць, а сведак забіваць. Кутлук-бек і яго дзясятнікі ўкруцілі нарабаванае ў конскія шкуры, закапалі часткамі каля трох магутных дубоў і велізарнага каменя. Тады ў стаўку дайшлі толькі пяцёра з тых, хто ведаў, дзе схавана золата. І вось ён, хан Койдан, павінен вярнуць скарб Залатой Ардзе. Але перш трэба разбіць і спапяліць гэты маленькі гарадок, што паўстаў на іх шляху. Праўда, можна было б яго абысці, але ж надта вялікі гнеў выклікаў воін на дальняй дазорнай вежы. Запаліўшы сігнальнае вогнішча, ён слізгануў па вяроўцы ўніз, сігануў у малады сасняк і прапаў у балаціне, быццам нейкі прывід.

Тры дні перад асадай ліў дождж. Дубовыя сцены Лагожска вымаклі, таму абаронцы не баяліся запаленых стрэл. Будзе горш, калі манголы пойдуць на прыступ. На дзядзінцы гарэлі кастры, награвалася смала ў катлах. Знадворку пад сценамі ляжалі бочкі з прымацаванымі да іх агloблямі. У бочках залацілася жывіца — сасновая смала, сабраная ў лесе. Гэта была задума Бажадара, лепшага каваля Лагожска. Але як павернецца бой — ніхто не ведаў. Ды ці спатрэбіцца гэтыя бочкі, калі горад не выстаіць?

Ханскія атрады шырокай пярэстай хваляй выкаціліся на суседняе з гарадам узвышша і лавінай рынуліся ўніз. Мінуўшы нізіну, з гіканнем панесліся на ўзгорак. Метраў за сто ад сцен, не спыняючыся, нацягнулі лукі — і тысячы стрэл роем паляцелі ў абаронцаў. Воі схінуліся за дубовыя плахі вежаў і байніц. Стрэлы шчапалі драўляныя тарчыцы, падалі ўніз. Закрычалі, застагналі раненыя на дзядзінцы. Іх адцягвалі да княжага замка.

Іванка з сябрамі, прыкрыўшыся шчытамі, збіралі стрэлы, неслі іх па лесвіцах лучнікам.

Вораг вырашыў узяць горад з налёту, зачапіцца арканамі з крукамі за сцены, перабрацца наверх і шаблямі завяршыць бойку. Але першая лінія абаронцаў, шпурнуўшы дзіды, адступіла, даўшы месца другім. Лёгкія дрэўкі з вострымі наканечнікамі прабівалі даспехі, ранілі коней. І войска хана адступіла, пакацілася назад. Услед паляцелі стрэлы, падабраныя Іванкам і яго сябрамі.

Койдан бачыў усё, стоячы на ўзгорку. Яго выцягнутая рука была няўмольная: «Назад! На горад!»



*Фота Кастуся Дробава.*

Брама галоўных варот Лагожска расчынілася. Сотня вояў рассыпалася ля сцен, падхапіла агloблі і пакаціла бочкі са смалой на ўзлобак гары. А ў нізіне варожая конніца павярнула і зноў рынулася на горад.

Княжыя воі спыніліся на версе гары. Успыхнула, разгарэлася смала ў бочках, і вогненныя калаўроты, разагнаныя дужымі рукамі, пакаціліся з гары, набіраючы ход, на варожую лавіну. Спалоханыя коні станавіліся на дыбкі, скідалі воінаў, тапталі іх капытамі, з іржаннем азвярэла несліся назад. З-за лесу выкацілася вогненнае свяціла і, быццам яшчэ адно полымя, ахапіла варожае войска.

Іванка, Сцяпан і Грышка, узабраўшыся на крапасныя сцены, глядзелі, як адступалі чужынцы, як княжыя воі скідалі шаломы, махалі імі і абдымаліся. Каля дазорнай вежы пераможна ўзняў уверх меч каваль Бажадар.

***

Вечарэла. Мангола-татарскі загон, які пусціў Койдан наперадзе, чакаў асноўнае войска і абоз на поймістым лузе ракі. Была вада, было паліва з недалёкага лесу, а за павозкамі ішлі і рыкалі валы, якіх згналі ў мясцовых урусаў. Мяса іх хутка напоўніць казаны, верне сілы стомленым воінам. І хан загадаў нукерам рыхтавацца да начлегу. Усцяж ракі, ад лесу і па займішчы луга выставілі дазорцаў, пасярэдзіне лагера паставілі некалькі юртаў, акружылі іх вазамі. Сям-там пачалі ўспыхваць кастры, прастору агаласіў прадсмяротны рык валоў.

Выпіўшы кубак кумыса, з'еўшы ладны кавалак мяса, Койдан сыта адваліўся на край юрты, спінай упёрся ва ўнутраную частаколіну. Зноў думкі сягнулі ў Вялікі Стэп, расплыўчата намалявалі воблік Есугея-багатура…

Сто вёснаў назад загінула некалькі мангольскіх ханаў. Есугей-багатур быў усяго толькі старшым роду Барджыгінаў. Ён і ўзначаліў барацьбу супраць чжурчжэняў і іх саюзнікаў — татар. Адчаяны і нежанаты, ён, як ніхто, трымаўся ў сядле, дзвюма шаблямі сек галовы ворагаў. Як ніхто, ён далёка і прыцэльна страляў з лука. Аднойчы ў стэпе, палюючы з сокалам, ён раптам убачыў павозку з прыгожай дзяўчынай. Клікнуў сваіх братоў — і манголы памчаліся ўслед. Дзяўчына, убачыўшы пагоню, сказала свайму жаніху-меркіту: «Ты бачыш гэтых людзей — яны цябе заб'юць. Кінь мяне, з'язджай. Я буду вечна цябе помніць». Потым зняла з сябе рубашку і аддала яму на памяць. Манголы прыбліжаліся хутка. Меркіт абрэзаў пастромкі, ускочыў на каня, ударыў яго бізуном і ўцёк ад пагоні. Браты, запрогшы сваіх коней у павозку, прывезлі заплаканую Оэлун — так звалі яе — дадому і сказалі: «Забудзь пра свайго жаніха. Наш Есугей жыве без жанчыны». Шлюб аказаўся шчаслівым: Оэлун нарадзіла першынца — Тэмуджына, а пасля яшчэ трох сыноў — Хасара, Хачыун-Бекі, Тэмугэ і дачку Тэмулун. Ад другой жонкі Сочыхэл нарадзіліся яшчэ двое сыноў — Бекцер і Бельтугей. Аднак лёс не даў шчасця Есугею. Калі Тэмуджыну споўнілася дзевяць гадоў, па мангольскім звычаі Есугей дамовіўся аб заручынах з бацькамі дзесяцігадовай дзяўчынкі Бартэ з суседняга племя. Пакінуўшы Тамуджына ў ханкіратаў, Есугей адправіўся назад. Па дарозе ён натрапіў на некалькіх чалавек, якія сядзелі ля агню. Як вялося здаўна ў стэпе, яны запрасілі яго раздзяліць ежу. Убачыўшы, што гэта татары, Есугей не адмовіўся, прысеў ля кастра: госця ніхто зачапіць не мог. Пад'еўшы і падзякаваўшы за пачастунак, ён паехаў далей. Па дарозе нутро Есугея працяў боль. Толькі адна думка білася ў скронях: яго атруцілі! На чацвёрты дзень, дабраўшыся дадому, ён папрасіў сваіх родных адпомсціць татарам за нечуванае парушэнне звычаяў стэпнякоў. І памёр…

Койдан спрасонку сцепануўся, прыадкрыў вузкія шчылінкі вачэй. Але ўсё было спакойна. Ля бліжняга кастра сядзелі воіны з яго стражы, непадалёку пасвіліся стрыножаныя коні. Ды і дазорцы, відаць, чуйна сцераглі ваколіцы. Супакоеныя думкі зноў пераляцелі ў Стэп.

Пасля смерці Есугея племя тайджыутаў напала на стан двух жанчын і шасцярых дзяцей, згнала ўсю жывёлу, пакінуўшы сям'ю галадаць. Каб атрымаць хоць што-небудзь, яны лавілі суркоў, збіралі дзікі часнок — чарамшу, Тэмуджын хадзіў да ракі, каб застрэліць з лука тайменя. А супляменнікі, якія пакрыўдзілі і кінулі сям'ю Есугея, пільна сачылі за ёй, баючыся заслужанай кары. Выведнікам яны зрабілі старэйшага сына Сочыхэл — Бекцера. І той, адчуўшы за сабой сілу і падтрымку, пачаў зневажаць і здзекавацца з дзяцей Оэлун. Не выцерпеўшы прыніжэння, Тэмуджын і Хасар пусцілі атручаную стралу ў здрадніка. Тайджыуты, згубіўшы даносчыка, напалі на юрту Есугея. Тамуджын — будучы Чынгісхан — збег у таёжны гушчарняк. Праз дзевяць дзён, галодны і знясілены, ён выйшаў адтуль. Тайджыуты схапілі яго, надзелі калодку-кангу — дзве драўляныя дошкі, якія сцягваліся на шыі. Невялікая адтуліна пасярэдзіне моцна сціскала горла. Палоннік не мог сам есці і піць, нават не мог сагнаць муху, бо ўвесь час рукамі падтрымліваў калодку, каб яна яго не задушыла. Аднойчы ў час свята поўні тайджыуты напіліся, пакінуўшы самага слабага вартаўніка і не даўшы архімалочнай гарэлкі. Тэмуджын калодкай аглушыў слабака і ўцёк. Вартаўнік праз колькі часу ачаломаўся, падняў крык. П'яныя тайджыуты кінуліся шукаць уцекача. Выратаваў Тамуджына Сарган-Шыра з племя сулдус, які рабіў тайджыутам кумыс. На беразе Анона ён знайшоў калодніка і сказаў: «Вось за што цябе не любяць, што ты такі змыслы. Ляжы і не бойся, я цябе не выдам». Разбіўшы калодкі, аддаў палонніку свайго каня, лук і дзве стралы. Тамуджын вярнуўся да сваіх. Сям'я адразу ж перакачавала ў другое месца, дзе тайджыуты не змаглі знайсці іх. Праз некаторы час будучы хан ажаніўся са сваёй нарачонай Бартэ, якую хутка ўкралі меркіты і якую ён адбіў у іх, разграміўшы восеннюю праклятае племя. Вакол смелага правадыра пачалі збірацца стэпавыя ўдальцы, пакуль не выбралі яго ханам з тытулам «Чынгіс».

Койдан прачнуўся ад звону сагана аб саган, якія грузілі на павозку. Сонца на локаць узышло над зямлёй. На лугавіне курыўся лёгкі туманок. Воіны пачалі здымаць юрты, рыхтавацца для далейшага паходу.

# КУДЫ ПАЕДЗЕ ПАЭТЫЧНЫ ФЭСТ?




Малюнак Алесі Ісы.

**Паэзія выходзіць з берагоў, віруе, ломіць лёд, зносіць ледзяныя крыгі, паэзія — гэта свабода і сіла, галоўнае — каб вершы гучалі напоўніцу, каб у радках адчуваліся натхненне і ўздым... «Ноч паэзіі» — кульмінацыя паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце» — сабрала тых, хто любіць паэзію жывую, гучную і ўзрушаную. Адметна, што ў мінскую кавярню «Грай», якая гэтым разам сталася прытулкам для творцаў ды муз, прыйшло нашмат больш людзей, чым планавалі арганізатары.**

**Сёлета міжнародны паэтычны фестываль памяці Міхася Стральцова ладзіўся адначасова з XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкай-кірмашом, але для многіх аматараў прыгожага пісьменства «Ноч паэзіі» стала ці не самай яскравай літаратурнай падзеяй мінулага месяца.**

**Каб цікавасць да сучаснай літаратуры часцей усцешвала беларускіх пісьменнікаў ды выдаўцоў, мы вырашылі задаць замежным гасцям пытанні, актуальныя тут і цяпер. Нягледзячы на феерычнасць свята і вялікую колькасць захопленых слухачоў, думка «пра тых, хто не з намі» такі засталася ў падтэксце многіх размоў. З нябёсаў на зямлю: здаецца, зусім не складана зладзіць перакладчыцкі батл альбо ноч паэзіі ў многіх іншых — вялікіх і маленькіх — беларускіх гарадах, але для нашай рэальнасці такая ідэя падаецца даволі дзіўнай. Пра цікавасць да літаратуры на шырокіх геаграфічных абсягах, асаблівасці прамоўцы кніжных выданняў расказвалі замежныя госці фестывалю. Іх адказы — добрая магчымасць сарыентавацца, куды і як беларуская літаратура можа рухацца ў прасторы і часе.**

**Каб падзяліцца натхненнем і творчай свабодай, вельмі патрэбна ўдзячная публіка! Таму пунктам для разважанняў сталася не паэтычнае, але вельмі істотнае сёння пытанне: у чым розніца чытацкай культуры ў гарадах і мястэчках?**



**Сяргей Сматрычэнка, філолаг-славіст, перакладчык з чэшскай мовы, заснавальнік і куратар кніжнай серыі «Чэшская калекцыя»:**

— Чэхі — народ, які любіць паскардзіцца на што-небудзь, і ў літаратуры — таксама. Усё спазнаецца ў параўнанні. Калі казаць пра літаратурныя гранты, ганарары за выступленні, магчымасці выступаць перад чытачамі, то сітуацыя ў Чэхіі не такая, як у Германіі, але значна лепшая, чым у Беларусі. У Чэхіі існуе літаратурны рынак. Таму, калі выходзіць кніжка, ад якой можна чакаць камерцыйнага ці, прынамсі, нейкага поспеху (бо яна сапраўды якасна напісана), то няма праблемы арганізаваць тур па раённых бібліятэках, што і робіцца. Бібліятэка — не толькі месца, дзе можна пагартаць свежыя газеты, пазычыць кніжку, але і сустрэцца з пісьменнікамі. Дарэчы, па статыстыцы, чэхі — першая ў Еўропе (а мо і ў свеце — дакладна не ўзгадаю) краіна па колькасці бібліятэк на душу насельніцтва і па колькасці наведванняў бібліятэк — таксама.

Творцы наведваюць не толькі кніжніцы, але і літаратурныя кавярні, прычым ахопліваецца вялікая тэрыторыя краіны з заездам у мястэчкі. Кожнае выдавецтва ладзіць туры для сваіх пісьменнікаў.

Цяпер я жыву у Брне — другім па велічыні чэшскім горадзе, значна меншым за Прагу, параўнальным з Віцебскам альбо Магілёвам па велічыні і колькасці насельніцтва. Па вялікім рахунку, калі буду мець жаданне, то магу штодня хадзіць на нейкія літаратурныя чытанні: сёння — у гарадской бібліятэцы, заўтра — у абласной, паслязаўтра — у нейкім клубе, яшчэ праз тры дні — у тэатры... У чэшскім мястэчку накшталт Пінска альбо Мёраў раз на тыдзень абавязкова ладзіцца цікавае літаратурнае мерапрыемства. Але невялікія гарады, мястэчкі могуць быць вельмі розныя. Дзесьці актыўны асяродак, актыўны загадчык бібліятэкі, які дбае пра тое, каб прыязджалі людзі і нешта адбывалася, дзесьці можа быць зусім інакш... Але для чэхаў няма праблемы заехаць у суседні горадок за 15 — 20 км, каб пасядзець у літаратурнай кавярні, паслухаць вершы, выпіць куфель піва, а потым вярнуцца дадому.

У Чэхіі маюць вялікую папулярнасць электронныя кнігі: яны каштуюць грошай, але грошай невялікіх. Такі набытак можна сабе дазволіць. Па продажах кніг проза больш папулярная, але што да фестываляў, то паэзія, вядома, — больш удзячны літаратурны жанр для слухання. Кароткія паэтычныя творы чытаюцца на фестывалях, а проза — дома ці ў тралейбусе. Дарэчы, найбуйнейшы ў Цэнтральнай Еўропе літаратурны фэст — «Месяц аўтарскіх чытанняў» — ладзіцца нават не ў Празе, а ў Брне. Цяпер да фестывалю далучыліся чэшская Астрава, славацкая Кошыца, польскі Вроцлаў, украінскі Львоў...



**Сяргей Жадан, украінскі паэт, празаік, эсэіст, перакладчык, музыкант:**

— Узровень цікавасці да літаратуры ва ўкраінскіх гарадах і мястэчках, бясспрэчна, адрозніваецца, таму што чытач жыве там, дзе ёсць кнігарня. На жаль, ва Украіне кніжныя крамы — гэта вялікая праблема. Яны ёсць у вялікіх гарадах. Калі ж кнігарню давядзецца адшукаць у мястэчку, там прадаюцца дамскія раманы, дэтэктывы, трылеры, паэзіі дакладна няма. Гэтым і вызначаецца розніца паміж чытачамі.

Разам з тым, калі ў так званай правінцыі ёсць людзі, якія цікавяцца літаратурай і культурай, то творчыя сустрэчы ў іх мястэчках перыядычна ладзяцца. Мы з сябрамі часта ездзім па невялікіх гарадах, і там заўсёды вялікая аўдыторыя, добрыя адкрытыя людзі. Ва Украіне стабільная цікавасць да літаратуры. Але зразумела, што большасць людзей шмат часу бавяць за тэлевізарам, хатнія гаспадыні больш цікавяцца меладрамамі, чым мастацкай літаратурай, і так прыблізна паўсюль у свеце. Паэзія патрабуе значна больш высілкаў, больш працы і духоўнага напружання, чым прагляд прагнозу надвор'я...



**Антанас Янінас, літоўскі паэт, перакладчык:**

— Літва — маленькая краіна, і нават калі чалавек жыве ўмоўна ў правінцыі, ён усё адно знаходзіцца недалёка ад горада. Цэнтр літаратурнага жыцця — гэта Вільнюс, але ў іншых гарадах таксама ладзяцца творчыя сустрэчы, прэзентацыі, іншыя літаратурныя імпрэзы. Напрыклад, фестываль «Вясна паэзіі» ездзіць па ўсёй краіне — па вялікіх і маленькіх гарадах, па мястэчках і сёлах. У многіх раённых гарадах добра працуюць бібліятэкі, і гэта вельмі істотна: культурнае жыццё не павінна быць сканцэнтравана ў адным месцы. Тыя, хто цікавіцца літаратурай, заўсёды могуць пазнаёміцца з кніжнымі навінкамі, сустрэцца з паэтамі і пісьменнікамі. Аднак пэўныя праблемы ёсць, таму культура чытання ў горадзе і на вёсцы, безумоўна, адрозніваецца.

Пісьменнік — не самая ўплывовая фігура ў сучасным грамадстве. У савецкі час прэстыж пісьменніка быў вельмі высокі: пісьменнік, паэт быў ці не адзіным чалавекам, які мог, прынамсі, паміж радкоў сказаць пра тое, што хацела б пачуць публіка. Цяпер сацыяльныя, культурныя праблемы абмяркоўваюцца адкрыта, месца пісьменнікаў занялі журналісты і блогеры. Пісьменнікі займаюцца тым, чым і павінны займацца, — эстэтыкай, мастацтвам. Таму яны менш вядомыя, чым у другой палове XX стагоддзя. Да таго ж, цяпер выдаецца безліч кніг — перакладныя, арыгінальныя...

Цікава, што 10 — 15, нават 5 гадоў таму перакладная літаратура карысталася большым попытам, чым кнігі літоўскіх аўтараў. Цяпер — складана растлумачыць, з якой прычыны, — літоўскіх пісьменнікаў пачалі чытаць больш, хаця мастацкі ўзровень не стаў нашмат вышэйшым. Напэўна, начыталіся ўжо замежнай літаратуры і пачалі больш цікавіцца айчыннымі аўтарамі...



**Умка (Ганна Герасімава), расійская паэтэса, спявачка, літаратуразнаўца, перакладчыца літоўскай паэзіі і сучаснай англійскай прозы:**

— У якасці літаратара галоўным чынам выступаю ў Літве — шмат ездзіла па мястэчках з прэзентацыямі кніг перакладных выданняў. У літоўскіх мястэчках і сёлах вельмі высокая культура ўспрымання літаратуры. Людзі ведаюць прадмет, бібліятэкі шыкоўныя, настаўнікі цудоўныя, дзеці ўмеюць слухаць вершы. Калі з гэтым сутыкнулася, то была ўражаная і вельмі ўсцешаная: у маленькіх літоўскіх гарадах на прэзентацыі перакладаў паэзіі з літоўскай на рускую мову прыходзяць сапраўды адукаваныя, зацікаўленыя людзі — хай не ў вялікай колькасці. Яны любяць сваю паэзію, чытаюць уголас і нават на памяць. На гэта насамрэч былі кінуты вялікія сілы: напрыклад, літаратура ад пачатку ездзіць па мястэчках і вёсках з фестывалямі, самы вядомы з якіх — «Вясна паэзіі».

Сучасная літоўская інтэлігенцыя амаль уся родам з вёскі. Так склалася: пасля вайны ў гарадах амаль не засталося літоўцаў — у тым ліку інтэлігенцыі, — і яна расла, адраджалася наноў з вясковага насельніцтва. У савецкі час Літву імкнуліся зрабіць двухмоўнай краінай — гэта атрымалася. Але хацелі аднаго — атрымалася іншае і лепшае. У Літве шмат тых, хто аднолькава свабодна адчувае сябе ў абедзвюх культурах. Ёсць і іншыя — якія не належаць да ніводнай з гэтых культур і наогул да культуры, але гэта асобная гісторыя. Ёсць рускія, якія з-пад палкі вучылі літоўскую мову, але гэта не атрымалася, ёсць літоўцы, якія вучылі рускую мову, палюбілі рускую літаратуру і дагэтуль яе любяць, ёсць маладыя літоўцы, якія не ведаюць рускай мовы, — і я не бачу ў гэтым праблемы... На творчых сустрэчах прыемна бачыць сталых людзей, якія добра ведаюць рускую паэзію, і веданне рускай літаратуры і культуры — гэта не так званая «туга па саўку». Вядома, на літаратурныя мерапрыемствы галоўным чынам прыходзіць старэйшае пакаленне, якое яшчэ вучыла ў школе рускую літаратуру і рускую мову.

Што тычыцца цікавасці да сучаснай літаратуры ў расійскіх сёлах і мястэчках, то тут усё вельмі няроўна. Часам — выдатна, часам — проста ніяк: многія паселішчы проста знікаюць, бо людзі перабіраюцца ў буйнейшыя населеныя пункты.

У расійскіх гарадах, вядома, высокі культурны і інтэлектуальны ўзровень. Прынамсі, да мяне на канцэрты і паэтычныя чытанні прыходзяць вельмі дасведчаныя людзі. Цяпер Расія, як мне здаецца, знаходзіцца ў цэнтры паэтычнага буму. Усе пішуць, паэты, вядомыя ў інтэрнэце і нават не вельмі маладыя, ездзяць з канцэртамі, ладзяць выступленні па ўсёй краіне. У розных гарадах арганізоўваюцца паэтычныя фестывалі, якія наведваюць мноства неабыякавых.

**Запісала Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Хай навальніца нашым сцягам будзе»:

## незвычайная Яўгенія Пфляўмбаўм

**«Чытаючы вершы, мы ніколі не ўспрымаем толькі тое, што сказана сэнсам іх слоў — мы заўсёды адчуваем таксама і тое, што падказана формай іх метра, рытма, рыфм, строфаў», — адзначыў М. Гаспараў. Але не толькі форма і сэнс прываблiваюць нас у паэзіі. Немалую ролю адыгрывае эстэтычны складнік верша, які ў сваім аб'ектыўным аспекце адлюстроўвае рэчаіснасць, а ў суб'ектыўным — яе ўспрыманне індывідуумам. І ў лепшых узорах паэзіі ўсе гэтыя моманты знаходзяць сваё гарманічнае ўвасабленне.**



*Яўгенія Пфляўмбаўм.*

Паэтка Яўгенія Пфляўмбаўм (1908 — 1996) добра вядомая аматарам беларускага прыгожага пісьменства. Яе неардынарны лёс і бясспрэчны талент даўно сталі аб'ектам увагі літаратуразнаўцаў. У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя пасля працяглага перапынку яна вярнулася да актыўнай творчай дзейнасці, выдала дзве кнігі паэзіі — «Сувой жыцця» (1989) і «На захадзе сонца» (1992). Вершы, якія ў іх увайшлі (згодна з датаваннем) пісаліся ў 1930 — 80-х гг. ХХ ст. Яны, безумоўна, заслугоўваюць увагі. Аднак па беларускай перыёдыцы 1920 — 30-х гг. рассыпаныя іншыя, неверагодна цікавыя творы Я. Пфляўмбаўм, адметныя сваімі эстэтычнымі якасцямі. Адзначым, што так званы «першы» перыяд творчай і грамадскай актыўнасці паэткі абмежаваны 1925 — 1931 гадамі (ад першай публікацыі верша «Пялёсткі восені» ў газеце «Савецкая Беларусь» да афіцыйнага заключэння шлюбу з паэтам Максімам Лужаніным, пасля якога (не будзем сцвярджаць, што гэтыя моманты ўзаемазвязаныя, але факт ёсць факт) вершы Я. Пфляўмбаўм перасталі друкавацца на доўгі час).

Літаратурная дзейнасць паэткі пачыналася ў шэрагах «Маладняка», стваранага ўвосень 1923 г. Маладая аўтарка ў сваёй творчасці ў многім кіравалася ўстаноўкамі гэтай пісьменніцкай арганізацыі. Увагу крытыкаў прыцягнула сумесная паэтычная кніга «Вершы» (1926) З. Бандарынай, Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм, якая выйшла ў серыі «Кніжніца "Маладняка"» і рэдактарам якой выступіў У. Дубоўка. Аднак найбольш выразна паэтычны талент Я. Пфляўмбаўм стаў раскрывацца менавіта ў пазнейшых публікацыях у перыёдыцы, і ў 1927 г. у хроніках часопіса «Маладняк» (№ 5) з'яўляецца першыя звесткі пра тое, што Я. Пфляўмбаўм *«рыхтуе да друку зборнік лірычных вершаў»*, у 1930 г. у № 1 і № 3 гаворка ідзе пра тое, што кніга Я. Пфляўмбаўм «Мелодыі» здаецца ў друк. Аднак зборнік так і не выйшаў.

Паэзія Я. Пфляўмбаўм вызначалася на фоне агульнай паэтычнай плыні маладнякоўцаў скіраванасцю да эстэтычнай узвышанасці слова, у яе амаль адсутнічае фальклорны элемент. Калі большасць маладнякоўцаў наследавалі паэзіі С. Ясеніна (асабліва ў 1920-х гг.), то ў творчасці Я. Пфляўмбаўм яго ўплыў зусім невідавочны, хіба што за рэдкім выключэннем асобных інтанацый:

*Я не вораг свайму захапленню:*
*Дзе мне радасць спаткаць — бягу,*
*Але сёння яна па-асеннаму*
*Жоўта-звонным сустрэне гулам.*

(«Досвіткам»)

Хоць паэтка і імкнулася адлюстроўваць асноўныя тэмы беларускай паэзіі таго перыяду, асабліва на пачатку 1930-х, але, напрыклад, дэклараваная ў яе творах маладосць лірычнай гераіні ніяк не судакранаецца з імпэтам камсамольскай арганізацыі, а выяўляе цяляснасць гераіні: *«Я маладая... мяне кахаюць...»* («Я маладая»). Некаторыя вершы Я. Пфляўмбаўм зачароўваюць лёгкай эратычнасцю, даволі рэдкай у паэзіі беларускіх жанчын 1920-х гадоў:

*Вакханалію справіла мора:*
*распляло цёмна-сінія косы*
*і кахання хмялёвую россып*
*ў навальнічных прапела мажорах!..*

(«Джан-Хот»)

У лірыцы Я. Пфляўмбаўм амаль не закранаецца тэма супрацьпастаўлення старога і новага, горада і вёскі (што, зрэшты, і нядзіўна ў паэзіі гараджанкі), у яе творах звычайна не акцэнтуецца ўвага на праявах быцця, свядома ці падсвядома паэтка дэкларуе прыхільнасць да паэзіі «красы», супрацьпастаўляючы красу «мелодыям жыцця»:

*Бы смага радасці*
*ў фантазіі хвіліны*
*Этэрам свежасці*
*акропіць шэры дзень,*
*Ў мэлёдыях жыцця*
*ніколі не загіне*
*крыштальнае*
*красы*
*успенены*
*струмень…*

(«Плывуць гады»)

Звернем увагу і на імпрэсіяністычныя акцэнты ў творчасці Я. Пфляўмбаўм. Нагадаем, што імпрэсіяніскі стыль у літаратуры адметны наступнымі рысамі: «Гэта фрагментарнасць, адрывістасць аповеду, «стэнаграфаванне» адзінкавага, канкрэтнага, дакладнае адлюстраванне ўражання, выкліканага той ці іншай падзеяй, чалавекам, прыродай, краявідам, выключная ўвага да дэталі, да ўсё тых жа, што і ў жывапісе, найтанчэйшых нюансаў, паўценяў, паўтонаў у характары, прадмеце, з'яве, сапраўды імпрэсіяністычная жывапісная пры перадачы колеру, каларыту, стану, перавага такіх адчуванняў, як няпэўнасць, недагаворанасць, зыбкасць, хісткасць. Але ці не галоўнае — гэта злука-зліццё знешняга і ўнутранага, прадметнага і пачуццёвага, у выніку чаго і паўстае славуты імпрэсіяніцкі пейзаж душы». Некаторыя з пералічаных рысаў мы сустракаем у паэзіі Я. Пфляўмбаўм, напрыклад, гульню святла і ценю:

*Белыя чайкі*
*у светласці возера*
*мармурам зззяюць*
*і плешчуцца ў россыпе*
*светла-сярэбранай*
*плешчуцца ўсплёскамі*
*ў сонечных косах.*

(«Светласць»)

Цяжка сказаць, ці развіваліся імпрэсіяністычныя матывы ў паэзіі Я. Пфляўмбаўм пад уплывам Н. Арсенневай, але дакладна можна весьці гаворку пра тыпалагічную блізкасць дзвюх аўтарак. Імпрэсіяністычнае светаадчуванне пераважае ў такіх вершах Я. Пфляўмбаўм, як «Гімн», «Светласць», «Легенда», і многіх іншых:

*Бы вадазбор ў люстранасці бліскучай,*
*Хароніць золак пераліўнай хвалі,*
*І плынню ціхай, плынню мілагучнай*
*Цалуе кропель слёзныя каралі…*

(«Гімн»)

Вершы Н. Арсенневай былі вядомыя маладым беларускім паэтам, а яе першая кніга «Пад сінім небам» (1927) выклікала шэраг станоўчых водгукаў і ў Савецкай Беларусі. Творы Я. Пфляўмбаўм набліжаюцца да лірыкі Н. Арсенневай сканцэнтраванасцю на падзеях унутранага жыцця і ўвагай да стану навакольнай прыроды:

*Каму-ж сказаць аб тым,*
*што плешча,*
*Ад сэрца лаваю гарачай,*
*Пякучай кропляй думкі цешыць,*
*Акордам хвойна-стромкім плача.*

(«Брату»)

Прырода ў вершах Я. Пфляўмбаўм прадстаўлена такімі дэталямі, як, напрыклад, кветкі, якія амаль заўсёды канкрэтызуюцца (як, дарэчы, і ў Н. Арсенневай). І калі лілеі — даволі распаўсюджаныя ў паэзіі 1920-х, то мімозы і мацэола з'яўляюцца хутчэй адметнасцю паэзіі Я. Пфляўмбаўм. Неаднаразова ўзнікаюць і вобразы птушак, напрыклад, чайкі, арляняты і г. д., ці падкрэсліваецца еднасць лірычнай гераіні з навакольным прыродным асяроддзем:

*Ў стэпах я і сусьвет*
*дрэмлем пад казку ветра,*
*ў стэпах я і сусьвет*
*п'ём сонцадальнюю сьветласьць.*

(«Сон у стэпу»)

У дачыненні да паэзіі Я. Пфляўмбаўм канца 1920-х можна весці гаворку не толькі аб праявах імпрэсіянізму, але і аб праявах экспрэсіянізму. З другога боку, у творчасці Я. Пфляўмбаўм адчуваецца ўплыў З. Бандарынай, ці, дакладней, «бандарынскай лініі», асабліва ў вершах на актуальныя грамадскія тэмы, такія як «Да дзесятых угодкаў БССР», дзе маюць месца абсалютна іншыя стылістыка і танальнасць, якія выяўляюцца ў тым ліку і ў элементах экспрэсіянізму (у прыватнасці насычаных рэзкіх колерах), не вельмі распаўсюджаных сярод беларускіх паэтаў:

*Калі вульканеў*
*рэвалюцыі хмель*
*На нашай… на нашай краіне,*
*і тая крывавая акварэль*
*на фоне вячэрняе сіні.*

(«Да дзесятых угодкаў БССР»)

А. Равуцкі адзначае, што «эстэтычна значныя "збоі" ў вершаваных тэкстах могуць абумоўлівацца і "няўзгодненасцю" сродкаў асобных узроўняў. Даволі паказальным у гэтым плане з'яўляецца перанос, г. зн. прыём, заснаваны на разбіўцы сінтаксічных сегментаў тэксту вершаванымі, міжрадковымі паўзамі. У выніку гэтага абедзве раздзеленыя паўзай часткі ўспрымаюцца як адносна самастойныя сэнсавыя звенні». Падобныя «збоі» былі характэрныя для паэзіі У. Маякоўскага, думаецца, што з пункту гледжання формы творы названых паэтак з выкарыстаннем гэтага прыёму можна лічыць данінай рытму і стылістыцы гэтага паэта, якія ў спалучэнні, у дадзеным выпадку, з адметнай вобразнасцю Я. Пфляўбаўм і яе экспрэсіўнай лексікай стварылі арыгінальныя творы ў беларускім пісьменстве:

*Ільсніцца*
*сонцам*
*бляск*
*ляза,*
*ты гнеўна коні*
*закілзаў,*
*сташ пад стромаю,*
*як грань,*
*і вочы зарывам гарадзь!*

(«***Вартавому на мяжы Савецкага саюзу і мілітарысцкіх дзяржаў»).

Або яшчэ адзін прыклад з некаторым запозненым налётам маладнякоўскай «бурапеннасці», увогуле нехарактэрнай для Я. Пфляўмбаўм:

*…І спустошанай студняй*
*стаіць элеватар —*
*ураджаю і севу,*
*сумленная варта, —*
*будзе жнівень*
*арбітрам*
*вясновага старту,*
*калі ўдружаць снапы*
*дадатковую вартасць.*

(«Вясновы старт»)

Найбольш яскрава асаблівасці паэзіі Я. Пфляўмбаўм праявіліся ў яе творчасці канца 1920-х гг., якая развівалася ў бок суб'ектывізацыі. У яе вершах, сканцэнтраваных на ўнутраным свеце гераіні, знешнія прыкметы рэвалюцыйнай эпохі да пэўнага моманту адбіваюцца хутчэй ускосна: *«Хай навальніца нашым сцягам будзе»* («Навальніца», 1925), а любоў да радзімы зноў жа трансфармуецца ад безаблічнага *«ў сэрца роднай краіны / ты з пяшчотнасцю прыняты»* («Айчына», 1925) да канкрэтнага і асабістага:

*Беларусь — краіна казак,*
*казка светлая сама,*
*па табе ў нямым экстазе,*
*рукі звыкла заламаць.*

(«Песня радзіме», 1928)

Мова твораў паэткі яркая, насычаная. Мастацкія асаблівасці лексікі Я. Пфляўмбаўм выяўляюцца праз азначэнні: *«чырвань-бляск»*, *«сталёва-пакорная»* рэчка («***Я адна на далёкай чужыне»), *«чырвань-воля»* («Не спіцца ўночы»), дзеясловы: *«цымбаліць»* (пра вецер) і іншыя формы. Як у кожнага аўтара, можна адзначыць часта паўтаральныя словы *«парыўнасць»* і *«парыванні»*, *«бліскучы»* і г.д. Дарэчы, спалучэнне чырвонага з сінім у розных варыяцыях можна лічыць характэрным для Я. Пфляўмбаўм (напр., *«Чырвань, сінь павучыннем спавіты...»* («Не спіцца ўночы»). Сярод паэзіі аднагодкаў творчасць Я. Пфляўмбаўм вызначаецца колеравай разнастайнасцю і адначасовай гульнёй святла ў вершах «Паэту» *(«светацені ніжуцца // ў пурпуры лістоў»)* або «Радасць»:

*Усё прамінецца, зблякне*
*ў света-ценях*
*і тванню-сівізной запеніцца краса,*
*і толькі яркія, парыўныя імкненні*
*не кінуць ў сэрцы разгарацца*
*і згасаць.*

Тэма красы цесна звязана з тэмай мастацтва, а дакладней — паэта і паэзіі, асэнсаваннем сябе як паэткі і сваёй паэтычнай творчасці: *«І роснай раніцай паэта, // Абуджаны змяёй-вадой, // На сонца гляне зноў з імпэтам, // Зноў адажыве ў ім дарагое»* («Брату»). Мастацтва робіцца галоўнай тэмай і верша «Паэту», зноў жа, з выразнай імпрэсіяніцкай стылістыкай.

Адметнасцю творчасці Я. Пфляўмбаўм з'яўляюцца вершы на башкірскую тэматыку, а таксама выкарыстанне нехарактэрных (калі не лічыць У. Жылку) для беларускай літаратуры ўсходніх матываў.

Менавіта ў вершах канца 1920-х выявіліся такія рысы паэзіі Я. Пфляўмбаўм як: *суб'ектыўны лірызм* (азначэнне М. Байкова), засяроджанасць на падзеях унутранага свету, колеравая разнастайнасць, стрыманы эратызм, імпрэсіяністычная гульня адценняў, экспрэсіяністычная выразнасць вобразаў.

Гэта толькі некаторыя аспекты эстэтыкі Я. Пфляўмбаўм, якія, тым не менш, дазваляюць зрабіць высновы аб фарміраванні яе творчай індывідуальнасці, а таксама меркаваць, якім мог бы быць зборнік Я. Пфляўмбаўм «Мелодыі».

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК,**
**кандыдат філалагічных навук**

# НЕВЫЧЭРПНАЯ ПРАЗРЫСТАСЦЬ ПАЧУЦЦЯ

## ў лірычных пейзажах Вітольда Бялыніцкага-Бірулі

Вітольда Бялыніцкага-Бірулю мастацтвазнаўцы называюць лепшым пейзажыстам першай паловы XX стагоддзя. Мастак актыўна прапагандаваў традыцыі лірычнага пейзажа, менавіта ён паспрыяў таму, каб краявіды роднай Беларусі пабачылі ў многіх кутках свету. Хоць даволі доўга мастак пражыў па-за межамі бацькоўскай зямлі, ніколі не адмаўляўся ад радзімы, наадварот, з вялікім гонарам казаў, што ён — беларус. Селёта ў краіне святкуюць памятную дату — 145-годдзе з дня нараджэння Вітольда Каэтанавіча. З гэтай нагоды ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь дэманструецца вялікая выстаўка мемарыяльнага пейзажа майстра.

Вітольд Каэтанавіч быў упэўнены: нельга здраджваць сэрцу, трэба пісаць так, каб у творах адлюстраваліся ўсе самыя цёплыя пачуцці. У яго гэта не проста атрымлівалася, а было дэвізам, стымулам жыцця. Яго творы насычаны адценнямі любові, шчырай, празрыстай, якую немагчыма не адчуць.

Любоў да пейзажа прыйшла з дзяцінства. Бацькі будучага мастака часта мянялі месца жыхарства, таму хлопец бачыў шмат разнастайных краявідаў, гэта захапляла. Яго бацька служыў у дняпроўскім параходстве, па магчымасці імкнуўся браць сына ў плаванне па Дняпры, Сожы, Прыпяці. Гэта было вялікім шчасцем і гонарам для маленькага хлопца. У такіх падарожжах ён адкрываў ні з чым не параўнальную прыроду Беларусі. Праз гады мастак не забыў дзіцячыя ўражанні, бо яны былі прыступкамі ў свет сур'ёзнага мастацтва, шляхам да выбару справы жыцця.

У сваіх дзённіках мастак пісаў, што жыць трэба сённяшнім днём. Не абмінаць прыгажосць з надзеяй, што заўтра сустрэнеш іх зноў. Калі сёння бачыш густыя аблокі і адзінокае дрэўца, то хутчэй занатоўвай у памяці гэты пейзаж: ужо заўтра неба можа быць гладкае і спакойнае, а пейзаж не такім вытанчаным, ды і сам чалавек можа стаць іншым, абыякавым альбо захопленым новымі павевамі жыцця. Вітольд Каэтанавіч пранёс гэта правіла праз усю творчасць, ён імкнуўся не паўтарацца і пазбягаў падабенства пейзажаў, яго прыцягвала ўнікальнасць прыроды.

Вельмі важна, каб па жыцці чалавеку шанцавала, інакш талент і прафесіяналізм могуць застацца незаўважанымі. Вітольду Бялыніцкаму-Бірулю шанцавала даволі-такі часта. Ён заўсёды апынаўся там, дзе быў патрэбным. Паступіўшы ў Маскоўскае вучылішча жывапісу, валяння і дойлідства, вучыўся ў такіх прафесійных майстроў, як Іларыён Пранішнікаў, Васіль Паленаў, Сяргей Каровін, якія паўплывалі на развіццё яго мастацкага густу і стылю. Але, як адзначаў сам мастак, галоўны падарунак лёсу — знаёмства з вядомым майстрам Ісакам Левітанам. Яны шчыра сябравалі і падтрымлівалі адзін аднаго. Нават знакамітае лецішча «Чайка», дзе ладзіліся розныя мастацкія пленэры, аўтар пабудаваў у любімых левітанаўскіх месцах. Менавіта Левітан дапамог пачаць выставачную дзейнасць. З 1897 года творы Бялыніцкага-Бірулі дэманстраваліся на разнастайных маскоўскіх выстаўках, кірмашах і конкурсах. У даволі маладым узросце імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі з'явілася ў каталогах перасоўных выставак. Прыкладна ў той жа час яго карціна



*«Прыйшла вясна», 1951 г.*

«З ваколіц Пяцігорска» была набыта для ўласнай галерэі вядомым калекцыянерам Паўлам Траццяковым. Гэта быў той самы першы крок, які дапамог паверыць у сябе і свае магчымасці.

Сёння яго пейзажы мастацтвазнаўцы называюць шэдэўрамі беларускага мастацтва. І тут нельга не пагадзіцца. Пісаць творы, не выкарыстоўваючы вялікай палітры колераў, разнастайнасці адценняў, паўтонаў, і ўсе роўна чапляць за жывое, можа толькі чалавек, які жыве сваёй справай. Хоць Вітольд Бялыніцкі-Біруля і прадаўжальнік левітанаўскай традыцыі, усё ж набыў творчую індывідуальнасць. Убачыўшы некалькі яго твораў, добра запамінаеш іх стылістыку — пасля не зблытаеш з работамі іншых творцаў.

Мастак імкнуўся да прастасці адлюстравання, дамагаўся натуральнасці і свежасці. Празмернасць дэталяў, выдуманыя сюжэты — не для яго. Нават ва ўмовах, якія патрабавалі ад мастакоў ідэалагічнага напаўнення, ён здолеў захаваць свой стыль.

У 1920 — 1930-я гады Вітольд Бялыніцкі-Біруля шмат падарожнічаў і маляваў памятныя месцы, звязаныя з жыццём і творчасцю дзеячаў рускай культуры. Так з'явіліся пейзажы пушкінскіх мясцін, Яснай Паляны, наваколляў сядзібы Пятра Чайкоўскага… Аднак мастаку заўсёды здавалася, што ён у даўгу перад роднай зямлёй, што мала для яе зрабіў, мала напісаў. Менавіта ў пасляваенны час аўтар падоўгу жыў на Белым лецішчы ў Мінску, тут жа стварыў мноства карцін, эцюдаў, эскізаў, многія з якіх сёння захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея.

Дзякуючы асобе Вітольда Бялыніцкага-Бірулі жанр беларускага пейзажа выйшаў на ўзровень еўрапейскай класікі. Яго творы — каштоўнасць і гісторыя беларускага народа. Многія калекцыянеры маюць вялікае жаданне набыць іх, але гэта практычна немагчыма. Вялікая колькасць твораў Бялыніцкага-Бірулі знаходзіцца ў Траццякоўскай галерэі, аднак самай маштабнай калекцыяй валодае Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, у фондах якога — больш як чатырыста пяцьдзясят работ майстра. Яны набываліся на працягу доўгіх гадоў з майстэрні мастака ў яго жонкі Алены Аляксееўны і ў прыватных калекцыянераў. Дзякуючы музею юбілейная выстаўка атрымалася разнастайнай і глыбокай. Куратары экспазіцыі спрабавалі адабраць малавядомыя творы альбо тыя, якія не выстаўляліся, каб нават дасведчаны глядач змог адкрыць для сябе новага Вітольда Бялыніцкага-Бірулю, адчуць невычэрпную энергію яго пейзажаў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Крохкасць у манументальнасці

## У памяць пра адну са стваральніц самага вялікага габелена ў свеце



*«Нябесныя вароты», 2006 г.*

Яна была крохкай жанчынай з моцным характарам і рукамі. Усё, за што ні бралася, ператварала ў твор мастацтва. Не ўмела рабіць дрэнна, усё даводзіла да ідэалу. Глядзячы на творы Тамары Кіршчынай, складана ўявіць, як мініяцюрная жанчына здолела ствараць манументальныя работы.

З пачатку сакавіка ў Палацы мастацтваў працуе выстаўка памяці таленавітай мастачкі-кераміста Тамары Кіршчынай, работы якой упрыгожваюць фасады і інтэр'еры многіх гасцініц, Вялікага тэатра оперы і балета, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Як кажа сын мастачкі, графік і дызайнер Андрэй Кіршчын, яго маці была чалавекам ідэі. Для яе не было перашкод, каб дасягнуць патрэбнай мэты. Яна магла не спаць начамі, есці адзін раз у суткі, але дасягала патрэбных вынікаў. Была вельмі прагматычным чалавекам, усе творы стварала ў двух экзэмплярах.

Родныя і блізкія кажуць: «Яна была замужам за мастацтвам». Камусьці для таго, каб натхняцца, патрэбна падарожнічаць, камусьці — сустрэць каханне, а ёй была патрэбна творчасць, сам працэс, праз які яна раскрывала любоў да любімых гарадоў, блізкіх людзей, паказвала тое, што баліць, і ў той жа момант залечвала раны, паглыбляючыся ў працу. Тамара Кіршчына ніколі не працавала на камерцыйную выгаду, а думала пра духоўнае, эстэтычнае натаalmost ленне, якое давалі творы.

Мастак Аляксандр Кішчанка быў настаўнікам Тамары Кіршчынай, вельмі яе любіў і паважаў. Яму падабалася, што мастачка не адцягвалася на знешнія працэсы, валодае вытанчаным густам, здольная праз мастацтва аналізаваць актуальныя тэмы. Адны з самых сваіх знакамітых твораў Аляксандр Кішчанка рабіў разам з Тамарай Кіршчынай. Так, іх габелен «Чарнобыль» цяпер упрыгожвае залы ААН у Нью-Ёрку разам з «Гернікай» Пабла Пікаса. А «Габелен стагоддзя» Кніга рэкордаў Гінеса да гэтага часу прызнае самым вялікім габеленам у свеце. Дарэчы, пасля стварэння «Габелена стагоддзя» мастачка вырашыла больш не займацца творчасцю.



*«Аўтапартрэт».*

Майстэрства Тамары Кіршчынай сёння натхняе маладых мастакоў, многія з якіх адзін за адным прыходзяць у Палац мастацтваў, каб убачыць яе разнапланавыя работы. Сімвалічныя, філасофскія керамічныя творы і пано захоўваюць вялікі загадкавы свет чалавека, уздзейнічаюць на псіхалогію.

Такія выстаўкі-ўспаміны вельмі важныя для нашага грамадства. Яны фарміруюць уяўленне пра таленавітых людзей, якія праславілі краіну. У будучыні сын мастачкі Андрэй Кіршчын марыць стварыць музей, прысвечаны маці. Таму ўсе творы беражліва захоўвае ў сваёй кватэры.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Зваротная сувязь

**Прэтэнзій да беларускай кінаіндустрыі з цягам часу становіцца больш. Але прад'яўляюць іх толькі тыя, хто беларускае кіно любіць і глядзіць. У астатніх выпадках пра нашыя стужкі не ведаюць наогул. Глядач кажа: «Не здымаюць». Але ці так гэта? Іншая справа, што айчынныя фільмы не так часта даходзяць да свайго гледача. І гэта адна з самых важных праблем нашага кіно: каб у аўдыторыі ўзнікалі хоць нейкія пачуцці да беларускага кінематографа, мы павінны яго папулярызаваць. Пакуль гэта адбываецца толькі з дапамогай прыватных ініцыятыў.**

## ВАЧЫМА ІНШЫХ

У «Доме кіно» ладзіўся праект «Незалежны позірк» (паказвалі маладыя беларускія кароткаметражкі), у Арткінатэтры можна было ўбачыць фільмы на экалагічную тэматыку; варта ўзгадаць і дакументальную праграму *BelarusDocs*; перыядычна з сучасным беларускім кіно можна пазнаёміцца і на фестывалях. Але чаму дагэтуль гледачы не ўпэўнены ў тым, што наша кіно хоча, а галоўнае, можа развівацца і быць цікавым? Магчыма, гэта зменіцца, калі айчынныя стужкі стануць паказваць у кінатэатрах разам з фільмамі Кэмерана ды Альмадовара. У лютым такая магчымасць з'явілася: на вялікім экране паказваюць беларусьфільмаўскія «Сляды на вадзе» Анісімава і маладое «Сваё кіно» ў Арткінатэатры.



*Кадр з фільма «Апошняя дата» (рэжысёр А. Маркава).*

Кінакрытык Антон Сідарэнка, адзін з арганізатараў праекта, кажа, што «Сваё кіно» — гэта добрая магчымасць для гледача ўбачыць сябе вачыма іншага чалавека. Так, сябе можна ўбачыць і ў замежных стужках, але, нягледзячы на агульначалавечыя праблемы, якія ўздымаюцца ў іх, там іншыя краіны, мовы, менталітэт: «Справа ў тым, што лепшае сусветнае кіно, а раней і галівудскае, стваралася ўніверсальна, для ўсіх. Праблемы, якія ўзнятыя ў фільмах "Патэрсан" Джармуша і "Тоні Эрдман" Адэ, агульначалавечыя і датычныя нас. Але выдатна, калі на экране можна ўбачыць штосьці блізкае, эмацыйнае адлюстраванне нашага жыцця. Беларускае мы павінны глядзець, каб бачыць менавіта сябе, гэта важна — любіць сваё. І не трэба пужацца, што многія стужкі праблемныя, драматычныя, нават трагічныя. Гэта таксама частка нашага жыцця: мы не можам хаваць свае праблемы і павінны гаварыць пра гэта самі».

Сучаснае беларускае кіно такое, што яно не разлічана на адпачынак ці забаўленне гледача, — у першую чаргу гэта нагода парэфлексаваць і падумаць над тымі пытаннямі, якія важныя не толькі для асобнага чалавека, але і для грамадства. Такое кіно не пакіне абыякавым выхаванага гледача. Антон Сідарэнка лічыць, што фільмы гэтага кшталту трэба выводзіць на аўдыторыю, а аўдыторыю — на такія фільмы: «Мы хочам змяніць стаўленне да беларускага кіно, каб яно перастала быць гета, каб яго паказвалі не ў крэатыўных прасторах праз праектары, а ў вялікіх кінатэатрах».

З іншага боку, рэжысёраў і саміх трэба выводзіць на аўдыторыю. Антон адзначае, што яны таксама згубіліся, бо ў кінематафістаў няма зваротнай сувязі, і гэтая праблема ідзе поруч з аўтарамі з часоў постсавецкага кіно: «Рэжысёры толькі выказваліся, не маючы сувязі з гледачом. Добрыя рэжысёры, якія здымалі яшчэ ў СССР, хацелі творчай свабоды, а пасля проста не маглі ёй скарыстацца, бо не было навыку размовы з гледачом».

«Сваё кіно» менавіта на такія размовы і накіравана. Кожны з паказаў працягваецца дыскусіяй. У гэтым і яго перавага над звычайнымі кінапаказамі: сённяшняе пакаленне інтэрнэту зацікаўлена ў камунікацыі — любіць лектараў, цікавыя падзеі і жывыя размовы, таму і выходзіць з дому, проста каб паглядзець кіно і не атрымаць нейкай сувязі, ім ужо нецікава: «Людзі не зусім звыкліся да таго, каб хадзіць у кінатэатр на беларускае кіно за грошы. Але мы хочам пераламіць сітуацыю, бо гэта не толькі паказы, — распавядае Антон. — Абавязковая ўмова — камунікацыя з аўтарам фільма, бо досвед сведчыць, што ў апошні час цікавасць да такога кшталту мерапрыемстваў павялічылася».

## КРЫТЭРЫЙ ЯКАСЦІ

«Сваё кіно» — праект хоць і новы, але ідэя яго вядомая яшчэ з 1970-х. Менавіта тады вельмі папулярнымі былі кінаклубы, дзе камунікавалі аматары фільмаў (многія з іх, дарэчы, пасля самі сталі вядомымі кінематаграфістамі і кінакрытыкамі). Нешта падобнае да гэтага руху спрабуе працягнуць і Антон Сідарэнка: «На першым паказе глядач быў вельмі актыўны! Больш за тое, некаторыя казалі, што размова з рэжысёрам была нават цікавейшая за саму кінастужку. У нас вельмі добрыя гледачы, якія не пужаюцца пытанняў і дыскусій. Запрашаю на паказы і людзей, меркаванне якіх цікава было б пачуць: ужо былі Кірыла Дубоўскі, Альгерд Бахарэвіч. Наогул, знosіны людзей на паказах — наша мэта».

Але часам на зваротную сувязь рэжысёры рэагуюць балюча. Хоць гэта ў большай ступені залежыць ад тэмпераменту рэжысёра, падсумоўвае Антон: «Я магу зразумець пачуцці маладога аўтара, які выходзіць на сцэну. Але такое адбываецца нават і з вядомымі рэжысёрамі: Акі Каўрысмякі адмовіўся выходзіць за сваёй узнагародай на сёлетнім Берлінале. Што казаць пра маладых рэжысёраў...».

Сумнявацца ў тым, ці добрае кіно чакае гледача на праекце «Сваё кіно», не даводзіцца: у Антона Сідарэнкі ёсць крытэрый якасці. Хоць часам стужкі могуць быць выкананы не ідэальна, але ў іх абавязкова будзе мастацкае рашэнне. І ў асноўным гэта дэбюты ці проста маладыя працы: арганізатары працуюць на сістэматызацыю сучаснага кіно, каб фільмы з'яўляліся не хаатычна, а больш сістэмна. Тады і глядач будзе валодаць не толькі ведамі пра бягучы кінапрацэс, але і пра саміх рэжысёраў.

Часам стужкі выбіраюцца вострыя. Напрыклад, на апошнім паказе глядзелі «Анамію» Уладзіміра Казлова. Пісьменнік і рэжысёр нарадзіўся ў Магілёве, некалькі гадоў жыў у Мінску, але зараз стварае ў Расіі. Тым не менш стужка яго вельмі сімвалічная не толькі з-за аўтарскага погляду на кінематограф, але і з-за тэмы: «Анамія» часткова распавядае пра постсавецкую рэчаіснасць, у тым ліку і беларускую. Канечне, многія моманты там ужо расійскія, але па гэтым фільме можна адсачыць, як па розных шляхах разышліся грамадствы, знайсці там і нашых герояў».

## ГРАШОВЫЯ АДНОСІНЫ

Паказы «Свайго кіно» ладзяцца раз на месяц. Наступны адбудзецца 22 сакавіка. У фокусе — праграма «Жаночы погляд», у якую ўвойдуць дзве стужкі маладых рэжысёраў: вельмі незвычайны, таленавіта зроблены і глыбокі для ўзросту рэжысёра дакументальны фільм мінулагодняй выпускніцы Акадэміі мастацтваў Аляксандры Маркавай «Апошняя дата» (стужка ўздымае пытанне сыходу чалавека з жыцця і тое, як людзі перажываюць гэта) і фільм Юліі Ралко «Орша — Мінск — Орша» ў стылістыцы школы Марыны Разбежкінай — вельмі жорсткі партрэт пакалення 25-гадовых.

Праграма на найбліжэйшую палову года ў арганізатараў ужо сфарміраваная, але здараецца, што ўносяцца змены: маладыя рэжысёры самі звяртаюцца да Антона Сідарэнкі і прапануюць паказаць свае фільмы. Адзін з такіх ужо ўключаны ў праграму. Вялікая цікавасць у праекта і да айчыннага анімацыйнага кіно: яно ў нашай краіне сапраўды мае вялізны патэнцыял, таму калі праграма набярэцца, то глядач абавязкова ўбачыць і беларускія разумныя мультфільмы.

Вялікая зала Арткінатэатра дазваляе праводзіць паказы для шырокай аўдыторыі. Але пакуль яна запоўненая толькі напалову. Пра тое, ці папулярнае беларускае кіно ў гледача, казаць пакуль рана: праект існуе толькі 2 месяцы. Антон Сідарэнка адзначае, што, калі ўлічыць першы паказ і той фактар, што кінатэатр, дзе ладзяцца паказы, не самы папулярны, то сам факт, што кіно паказана, ужо пра многае сведчыць: «Дакументальнае дэбютнае беларускае кіно маладога аўтара змагло сабраць палову залы, і я лічу, што гэта добры паказчык».

«Сваё кіно» — у першую чаргу эксперымент над кіно і гледачом. Што будзе, калі паказаць гледачу кіно як працэс? Каб глядач ведаў не толькі асобныя прозвішчы рэжысёраў і назвы самых распіяраных фільмаў, але і разумеў сістэму беларускага кіно, якую праект зараз спрабуе ствараць. Яшчэ адзін бок эксперымента — праверыць, ці гатовы беларускі глядач плаціць за сваё кіно столькі ж, колькі ён плаціць за замежныя блокбастары ды камедыі? Хочацца спадзявацца, што гатовы. Бо, як бы банальна ні гучала, грошы вымяраюць тыя адносіны глядача, якія склаліся сёння ў Беларусі да мастацтва наогул і кіно ў прыватнасці.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

## ПАСПЕЦЬ ПАБАЧЫЦЬ

**Сёлетнія «Оскары» ўжо знайшлі сваіх пераможцаў, у нас ёсць магчымасць яшчэ натрапіць на намінантаў прэміі Амерыканскай кінаакадэміі і яе ўладальнікаў у кінатэатрах.**

1. **«Месячнае святло»** Бары Джэнкінса — трыумфатар сёлетняй прэміі. Фільм перамог у трох намінацыях з пяці і атрымаў узнагароды за лепшы фільм, мужчынскую ролю другога плана і лепшы адаптаваны сцэнарый. Стужка распавядае пра тое, што адбываецца падчас сталення, і вельмі ўзважана распавядае: Джэнкінс працаваў над сцэнарыем тры гады, нават з'язджаў з краіны, каб убачыць гэтую гісторыю з іншага боку. У выніку атрымалася кіно пра чалавека, які праходзіць вельмі складаны шлях ад хлопчыка да мужчыны, пераадольваючы сямейныя драмы, здрады сяброў і ў нейкім сэнсе самога сябе.



2. Нямецкая стужка **«Тоні Эрдман»** Марэн Адэ, на жаль, не атрымала статуэтку. Але за плячыма ў гэтага фільма ўдзел ва ўсіх вядомых кінафестывалях і прыз прэсы на Канскім кінафестывалі. Нягледзячы на тое, што кіно не атрымала «Оскар», амерыканцы адзначалі вартасць фільма іншым спосабам: у ЗША здымуць рэмэйк «Тоні Эрдмана». А гісторыя і сапраўды вельмі блізкая жыхару любой краіны: кіно пра тое, як бацька амаль 3 гадзіны экраннага часу спрабуе дамагчыся хоць нейкіх цёплых пачуццяў ад дарослай паспяховай дачкі. Для гэтага бацьку прыйдзецца ператварыцца ў бізнесмена Тоні Эрдмана, які паспрабуе «растапіць лёд» у сэрцы бізнес-лэдзі.



3. **«Джэкі»** Пабла Лараіна павінен быў наогул здымаць Дарэн Аранофскі, але чамусьці запрасіў на здымачную пляцоўку чылійскага рэжысёра. Гісторыя пра жанчыну, якую ведае ўвесь свет, не атрымала ўзнагарод на «Оскары», але здабыла шмат водгукаў і глядацкіх сімпатый. Тым не менш стужка спадабаецца ў першую чаргу тым, хто любіць павольнасць: моцнай Жаклін Кэнэдзі тут чакаць не даводзіцца, а вось крохкасць і далікатнасць адной з самых вядомых першых лэдзі ЗША паказана прыгожа і выразна. Блізкія кожнаму гледачу пачуцці страты, згубленасці і адзіноты ў Наталі Портман заўжды атрымліваюцца выдатна.



# Няма цуду без дабра



Таццяна Арлова.

Маладая і загадкавая прафесія рэжысёра сёння як хлопчык для біцця. Рэжысёр адказвае за ўсё: за сябе і за іншых. У наш час тэатральнай справе, кінематаграфічнай, тэлевізійнай, эстраднай патрабуецца вялікая колькасць рэжысёраў. Рэжысура стала мастацтвам масавым і моцна адрозніваецца ад таго, што было ў пачатку мінулага стагоддзя, калі яна фактычна толькі фарміравалася. Тады тэатр атрымаў школу рэжысуры К. С. Станіслаўскага. Дарэчы, яна і сёння высока цэніцца ва ўсім свеце, асабліва ў Амерыцы. Занятак гэты быў доляй абраных, часцей за ўсё не вельмі маладых людзей. Разуменне прафесіі складалася абавязкова з немалога тэатральнага і жыццёвага досведу разам з магчымасцю вучыцца ў вялікіх майстроў.

Прайшоў час, рэжысура страціла арэол выключнасці. Знікла неабходнасць спецыфічнай адоранасці. Павялічылася доля тэхналагічных уменняў. Сёння рэжысёр — арганізатар спектакля, які ўмее ўвесці ў дзеянне ўсе пастановачныя кампаненты. Тут ён поўны гаспадар. Пры такой сітуацыі непазбежныя страты, што не можа не турбаваць.

Каб прыцягнуць гледача, радыкалы ў тэатры не проста шакуюць. Яны зачароўваюць дзёрзкім спалучэннем жаху і смеху, ненарматыўнай лексікай, адсутнасцю маральных абмежаванняў, страшэнным драйвам. Візуальная карціна павінна быць дасканалай. Усё пераліваецца, гучыць, дзівіць уяўленне. Адымае шмат сіл, часу і сродкаў. Тэатр перастае ставіць пытанні, якія востра хвалююць аўдыторыю. Да таго ж зусім не застаецца магчымасці для карпатлівай працы з акцёрамі.

## Сённяшні дзень

Год культуры скончыўся, не пакінуўшы ў жыцці тэатраў Беларусі яркага следу. Па-ранейшаму не хапае фінансаў на пастаноўкі, сучаснай драматургіі і цікавых рэжысёраў. Рэжысёрскі дэфіцыт адчуваецца вельмі востра. Няма галоўных рэжысёраў у Бабруйску, Гомелі, Маладзечне, Брэсце, Маладзёжным тэатры Мінска. Не хапае і чарговых рэжысёраў літаральна ва ўсіх тэатрах. І ці варта нагадваць пра тое, што рэжысура — гэта і тлумачэнне твораў, і арганізацыя творчасці, і педагогіка, і маральны клімат у калектыве, і практыка тэатра, і грамадскі твар мастацтва. У сіле і слабасці рэжысуры ў першую чаргу адбіваецца сіла і слабасць тэатральнай справы. Узлёты і падзенні нашых тэатральных арганізмаў, як правіла, звязаныя з узлётамі і падзеннямі творчых кіраўнікоў гэтых калектываў. Сваім унутраным аблічам тэатры перш за ўсё абавязаны творчай індывідуальнасці рэжысёра.

Магчыма, сёння мы можам казаць пра тое, што Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы — гэта тэатр Мікалая Пінігіна, Нацыянальны тэатр імя Якуба Коласа — тэатр Валерыя Анісенкі, Магілёўскі драматычны — тэатр Саўлюса Варнаса, Гродзенскі тэатр лялек — тэатр Алега Жугжды, Дзяржаўны тэатр лялек — тэатр Аляксея Ляляўскага. РТБД, стаўшы тэатрам Аляксандра Гарцуева, адышоў ад таго, каб быць лабараторыяй беларускай драматургіі. ТЮГ, стаўшы тэатрам Уладзіміра Савіцкага, страціў сваю першарадную накіраванасць на выхаванне юнага пакалення, губляе дыялог сцэны і залы. Нацыянальны акадэмічны рускі тэатр імя Горкага, стаўшы тэатрам Сяргея Кавальчыка, сур'ёзна накіраваны на касавыя зборы і аддае прыярытэт не рускай драматургіі. Новы драматычны тэатр, стаўшы тэатрам Сяргея Кулікоўскага, узмоцнена забаўляе непатрабавальную аўдыторыю завадской ускраіны.

Рэжысёрскае аўтарства — рэч складаная і далікатная. Не сакрэт, што часта аўтарская рэжысура ператвараецца ва ўпэўненасць сваёй перавагі над думкай аўтара, хай нават яго імя Шэкспір або Чэхаў. Яшчэ горш, калі рэжысёр, які атрымаў тэатр, спрабуе падкрэсліць, што да яго ніхто нічога ў гэтым тэатры не зрабіў. Праграма развіцця і станаўлення тэатра можа нараджацца толькі на аснове старраннага вывучэння папярэдняга досведу, кожнай акцёрскай індывідуальнасці, традыцый тэатра і яго сённяшніх клопатаў, аб'ектыўных і суб'ектыўных умоў працы калектыву.

## Чаму яны навучыліся

Зразумела, усё пачынаецца з навучальнай установы і падрыхтоўкі рэжысёрскіх кадраў. Варта нагадаць вядомую ісціну: рэжысуры ў ВНУ навучыць нельга. Можна толькі навучыцца, калі вельмі хочацца. Рэжысёрам можна стаць, былы фізікам, матэматыкам, гісторыкам, і толькі потым атрымаць спецыяльную рэжысёрскую адукацыю. Кузня рэжысёрскіх кадраў — наша Акадэмія мастацтваў. Да яе звычайна ўсе прэтэнзіі. Выпусцілі даволі шмат. У прафесіі засталося значна менш. У тэатральнай рэжысуры — яшчэ менш. Якім бы ні быў інстытуцкі педагог, не пазбегнуць небяспечных пастак прафесіі. На першым месцы — якасны адбор.

Кожны год сотні маладых людзей імкнуцца трапіць на рэжысёрскія факультэты. Трапляюць дзясяткі. Самыя таленавітыя? Неабавязкова. Самыя падрыхтаваныя? Не заўсёды. Проста яны ярчэй праявіліся.

Чалавек, які паступае на рэжысуру, адрозніваецца ад звычайнага абітурыента: ён больш ведае (ці абавязаны ведаць) пра сваю прафесію, ён у больш складаным становішчы. Яму трэба быць добра «падкаваным» тэарэтычна, падрыхтаваць цікавую праграму па акцёрскім майстэрстве, арыгінальна падумаць у пісьмовай працы, не разгубіцца на сумоўі, перамагчы нясмеласць і хваляванне.

Дарэмна наракаць: вось перш былі педагогі, цяпер няма ў каго вучыцца. Гэта не так. Захочаш — навучышся. Элементарнымі тэхнічнымі навыкамі сёння валодаюць усе.

У педагагічнай справе шмат таямніц. Адно з самых таемных — адчуць здольнасць. Ніякія тэсты, паказанні прыбораў і характарыстыкі не забяспечаць самі па сабе адбор найбольш адораных. Ёсць педагагічны нюх, ёсць досвед прыёму ў ВНУ, і гэтым у першую чаргу карыстаецца экзаменатар. І часцей мае рацыю ў адзнацы, хоць памылкі здараюцца як пры прыёме, так і пасля яго: добра здаў экзамен, але расчараваў падчас вучобы, з цяжкасцю паступіў, а аказаўся на рэдкасць здольным.

Усе, хто паступае, клянуцца ў любові да тэатра, нават калі дрэнна яго ведаюць і мала бачылі.

Потым многія з іх жывуць, спакойна абыходзячыся без тэатра, клянуцца ў любові да іншай дзейнасці.

А, між тым, любоў да тэатра — таксама прафесійная ўласцівасць. Не толькі глядацкае захапленне (хоць гэта таксама важна), а імкненне спазнаць свет праз тэатр. Любіць тэатр — гэта па-тэатральнаму мецъ зносіны са светам, бачыць у жыцці законы драматургіі і сцэнічнага мастацтва. І калі экзаменатар вызначае, ці назіральны, ці ўражлівы абітурыент, ён спрабуе высветліць прыроду назіральнасці, уражлівасці.

Не ўвогуле, а канкрэтна — назіральнасці за чалавекам, таму што рэжысёр не проста перакладчык п'есы на тэатральную мову. Ён абавязаны хварэць праблемамі свайго часу і распавядаць людзям пра чалавека праз чалавека.

Персанальных адказчыкаў (акрамя выкладчыкаў ВНУ) за лёс рэжысёра ў мастацтве няма, і да маральнай або дысцыплінарнай адказнасці прыцягваць няма каго. Не адбыўся рэжысёр — сам вінаваты. У ВНУ навучаць, што трэба ўмець рабіць, каб паставіць спектакль, навучаць элементам і законам рэжысёрскай творчасці. У тэатры ставяць спектаклі. У тэатры пачатковец рэжысёр прымяняе веды і навыкі па сваім разуменні ў кожным канкрэтным выпадку, у кожнай канкрэтнай сітуацыі. Тэатр і школа адрозніваюцца адзін ад аднаго гэтак жа, як бой адрозніваецца ад палявога вучэння. Проза жыцця ў мастацтве аказваецца складаней за самыя смелыя ўяўленні, поспехі і перамогі прыходзяць не адразу. У мастацтве ўсе ўсё разумеюць лепш за саміх творцаў (парадокс мастацтва як віду дзейнасці, адрасаванага ўсім). Учынкі і рашэнні кіраўніка тэатра, калі яны правільныя і адказныя, трэба ахоўваць ад дробязнасці, пустых меркаванняў, тым больш калі яны сыходзяць з калектыву.

## Рэжысёрскі характар

Дрэнна будзе рэжысёру, калі ён адзін бачыць будучы спектакль, калі яго задума — сума непарушных ісцін, даступных яму аднаму. Рэжысёры, якія ўсё ведаюць, рэжысёры-дэспаты сыходзяць з тэатра назаўжды. Сёння, калі рэжысёр не здольны абудзіць творчую энергію ўсяго калектыву, далучыць да задумы акцёра, — ён нічога не здолее зрабіць вартага. У самыя цяжкія моманты працы (а такіх момантаў шмат) рэжысёра можа выратаваць толькі калектыў. Можна аспрэчыць выраз «рэжысёрскі характар». Мне ж ён падабаецца. У адных ён мяккі, у іншых — дэспатычны, у трэціх — выбухны і канфліктны. Уласны прыклад моцна ўплывае на настрой калектыву, бо рэжысёр моцны творчасцю іншых і яму ўвесь час трэба быць у напрузе, каб не страціць якасці лідара. Таму, напэўна, рэжысёрскі характар — гэта адсутнасць ляноты і вялікая працавітасць, сардэчнае стаўленне да людзей, мужнасць і адвага. Добра, калі да гэтага атрымліваецца далучыць шанцаванне. Досвед паказвае, што поспехі здараюцца тады, калі ёсць дух мастацкага братэрства. Вялікі Вахтангаў называў гэта студыйнасцю. Доўгі час існаваў тэрмін «аднадумцы».

На фоне даволі роўнай плыні тэатральнага працэсу ў нашай краіне вылучаюцца на агульным фоне намаганні і вынікі працы Цэнтраў драматургіі і рэжысуры, якімі кіруюць Аляксандр Марчанка і Таццяна Траяновіч. Дапамагае ім Цэнтр візуальных мастацтваў, які штогод ладзіць фестываль «Тэарт». Яны працуюць на мінімальным фінансавым забеспячэнні і часта вымушаны задавольваецца разавымі паказамі. Аднак іх гуртуе менавіта дух студыйнасці. Да апошняга часу галоўнай перашкодай быў пошук сцэнічных пляцовак. Да рэпетыцыі па начах і на чыёй-небудзь кухні можна прыцягнуць маладых. Сталыя акцёры на гэта не пагодзяцца. Ва ўсіх удачах апошняга часу («Мабыць?», «Опіум», «Участковыя», «Ілюзіі», «Лондан») мы адзначаем новыя акцёрскія твары.

## Апекаваць, спачуваць

Здавалася б, менавіта ў маленькай тэатральнай прасторы павінен спець дух салідарнасці, адчування дапамога майстроў. На справе гэта не так. Самавітыя сталічныя тэатры адгароджваюцца ад эксперыментаў у сваіх сценах. Так, Цэнтр візуальных мастацтваў толькі аднойчы ўгаварыў кіраўніцтва Новага драматычнага тэатра паказаць праект «*Patris*» у яго зале, што не практыкуецца. Майстар рускага тэатра імя Горкага Валерый Шушкевіч рабіў свой монаспектакль паводле твораў Уладзіміра Караткевіча не на сваёй малой сцэне, а на камернай купалаўскай. У сваю чаргу кіраўніцтва купалаўскага тэатра адмовіла Святлане Бень граць яе вельмі цікавы спектакль «З жыцця казурак» там жа, у камернай зале. «Опіум» вымушаны арандаваць пляцоўку ў Палацы мастацтваў і кожны раз нанова яе ўладкоўваць.

Можна лічыць, што напор самастойных рэжысёрскіх праектаў ссунуў сітуацыю з мёртвай кропкі. Па-першае, стаў актыўна дапамагаць Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, менш актыўна (але можна дамовіцца) — Маладзёжны тэатр. Па-другое, абсталяваны невялікі тэатральны зальчык у новым Цэнтры сучасных мастацтваў на Някрасава. Магчыма, сюды змогуць прыязджаць калектывы з абласцей. Намаганні, як прынята лічыць, перыферыйных рэжысёраў несправядліва выпалі з поля нашай увагі. Аднак і там ідуць цікавыя працэсы. Нядаўна коласаўскі тэатр паказаў на гэтай новай сцэне «Каралеву прыгажосці» М. Мак-Донах'ю, працу актрысы і маладога рэжысёра Ірыны Цішкевіч. Ці варта казаць, што прарыў да цікавага тэатра, дзе сучасна аналізуюцца грамадскія працэсы і чалавечая прырода, існуе побач і паралельна з паныла-дыхтоўнымі і нахабна-забаўляльнымі вырабамі. У ліку самых запатрабаваных камедый накшталт «№ 13» Р. Куні, у якіх абагульваюцца анекдатычныя сітуацыі. Там замкнёнасць на інтарэсах уласнай асобы, маральная глухата, штампаваныя сітуацыі, адсутнасць яркай рэжысёрскай думкі і канцэпцыя шоу. Пабудаваць. Пасмяшыць. Паспяваць. Паскакаць. Каму аддаць перавагу і хто рушыць тэатральнае мастацтва наперад? Непрызнаны пакуль рэжысёр або ўмелы рамеснік? Калі рэжысёр валодае гумарам, ён лёгка выкарыстоўвае капусна-парадыйныя прыёмы на патрэбу публіцы. Аднак нашы майстры Валерый Раеўскі, Барыс Луцэнка, Валер Мазынскі, Валерый Маслюк, Юрый Міроненка, Валерый Анісенка, Андрэй Андросік ніколі не апускаліся да такога ўзроўню і дасягалі магутнага эмацыйнага ўдару зусім іншымі сродкамі. Дарэчы, усіх іх пры рознай метадалогіі аб'ядноўваў цалкам вар'яцкі творчы фанатызм. І ўсе яны выпускнікі беларускай тэатральнай школы. Кожны з іх адчуваў апісаныя вышэй цяжкасці ў пачатку кар'еры, а дамогшыся прызнання, не спяшаўся апекаваць тых, хто ішоў за імі. Вось парадокс…

## Тэатральныя Дон Кіхоты

Які прагноз надвор'я на заўтра? Самая балевая кропка сённяшняга тэатральнага працэсу — недахоп сваіх таленавітых рэжысёраў. Можна, вядома, запрашаць на пастаноўку кагосьці збоку. Гэта не выйсце. Неабходныя менавіта свае, тыя, што ведаюць гэтую зямлю і гэты народ. Імі нельга раскідвацца, як гэта адбылося з Віталем Баркоўскім, якога мы аддалі Смаленску. Варта было, дарэчы, яму нездоўга вярнуцца на Бацькаўшчыну, і ў шараговым Пінскім тэатры з'явілася нешараговая «Пінская шляхта».

Дон Кіхоты сёння ў дэфіцыце. Жорсткая проза жыцця забівае ілюзіі. Аднак нельга не бачыць, як ламаюцца выкаальніцкія традыцыі, як лідзіруе постмадэрнісцкае прачытанне п'есы, як шоу перацякае ў класіку. Рэжысёр ужо не спектакль ставіць, а праект або акцыю. Ужо не пакутуе ад сумневаў і разважанняў кшталту «быць ці не быць», а шчыруе ў пошукавай сістэме «Яндэкс», запампоўвае чужое з інтэрнэту. Напэўна, можна і так. Пражывеш як-небудзь. Мне хочацца ілюзій, мне хочацца аптымістычнага працягу. У нас таленавіты народ. Ён што-небудзь прыдумае.

**Таццяна АРЛОВА**

## Рыгор Сурус:

# «САКРЭТ КАМПАЗІТАРСКАГА ПОСПЕХУ — У ПРАФЕСІЯНАЛІЗМЕ»

Добрай традыцыяй сталі творчыя сустрэчы з беларускімі кампазітарамі ў Дзіцячай музычнай школе мастацтваў № 9 г. Мінска. Тут адбыўся канцэрт-віншаванне, прысвечаны 75-годдзю ганаровага члена праўлення Саюза кампазітараў Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Рыгора Фёдаравіча Суруса.

Творчая дзейнасць кампазітара пачалася ў 60-я гады мінулага стагоддзя і не спыняецца па сёння. У 2014 годзе за ўнёсак у развіццё айчыннай культуры ён быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. А юбілейны канцэрт, падрыхтаваны вучнямі і выкладчыкамі адной з лепшых адукацыйных устаноў Мінска, вызначальны тым, што музыку кампазітара добра ведаюць, любяць і з задавальненнем выконваюць не толькі дарослыя, але і дзеці.

Варта ўзгадаць, што вось ужо тры гады запар Рыгор Сурус узначальвае журы дзіцячага конкурсу «Дзяржынскі куфэрак», які ладзіцца ў межах унікальнага ў Беларусі творчага праекта «Беларуская музычная спадчына — дзецям». Падчас юбілейнага канцэрта кампазітару было вельмі прыемна паслухаць у выкананні Настассі Герольд, двойчы лаўрэата конкурсу (2014 і 2016 гг.), песню і танец з яго цыкла «Пяць п'ес для фартэпіяна». Лаўрэат «Дзяржынскага куфэрку-2015» Міхаіл Збароўскі выканаў знакаміты «Святочны вальс» у апрацоўцы для акардэона.



Рыгор Сурус адзначае юных лаўрэатаў музычнага конкурсу (2015 г.).

Першыя крокі ў музычным мастацтве ў кампазітара звязаныя менавіта з акардэонам, які пасля вайны быў вельмі распаўсюджаны і папулярны. Першапачатковую музычную адукацыю атрымліваў у прыватных педагогаў, бо музычная школа знаходзілася ў небяспечным, нават крымінальным раёне. Доўга вагаўся з выбарам прафесійнай адукацыі: матэматычныя раздзікі і тэарэмы даваліся злёту, была спакуса паступаць ва ўніверсітэт. Але ж захапленне музыкай перамагло.

Сакрэты кампазітарскага прафесіяналізму спачатку спасцігаў у класе Яўгена Глебава падчас навучання на тэарэтычным аддзяленні Мінскага музычнага вучылішча. Ён заўсёды сцвярджаў, што сапраўдны кампазітар можа напісаць любую музыку. У кансерваторыі Рыгор Сурус працягваў навучанне ў класе заснавальніка беларускай кампазітарскай школы, патрыярха беларускага музычнага мастацтва Анатоля Багатырова. Асістэнтуру-стажыроўку праходзіў у Ленінградскай кансерваторыі ў прафесара А. С. Лемана і адначасова выкладаў кампазіцыю ў спецыяльнай музычнай школе-адзінаццацігодцы пры Белдзяржкансерваторыі.

Першы творчы поспех і званне лаўрэата — на Усесаюзным фестывалі савецкай моладзі ў 1973 г. за музыку вакальна-інструментальнай сюіты «Сваток». Але ж ці не самым вядомым творам кампазітара ў 1970 — 80-я гады стала народная музычная камедыя «Несцерка», пастаўленая Барысам Уторавым. Абноўлены ў пачатку 90-х, спектакль быў адным з нямногіх «доўгажыхароў» у нацыянальным рэпертуары Музычнага тэатра. Услед была створана гераічная музычная камедыя «Судны час» паводле п'есы А. Макаёнка «Трыбунал». І зноў поспех!

Заявіў пра сябе кампазітар і ў сімфанічных творах для вялікага і камернага аркестраў, як аўтар сімфоніі, канцэрта для скрыпкі з аркестрам, сімфаніеты, танцавальнай сюіты «Дружба». Шырокую папулярнасць набылі шматлікія эстрадна-сімфанічныя кампазіцыі «Вячэрні рытм», «Лірычны экспромт», «Восеньскі накцюрн», «Успамін», «Бэзавы сад». А «Святочны вальс», які ўпершыню прагучаў на беларускім радыё сорак гадоў таму, стаў візітоўкай Рыгора Суруса.

Амаль кожнае сачыненне кампазітара вылучаецца незвычайным або нетрадыцыйным мастацкім вырашэннем. У вакальна-сімфанічнай паэме «Памяці герояў», створанай да 30-годдзя перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, выкарыстаны тэксты надпісаў на сценах Брэсцкай крэпасці, мемарыяльных помнікаў Мамаева кургана і Марсава поля. Разам з сімфоніяй-канцэртам «Каляды. Раждаство», прысвечанай 2000-годдзю ўзнікнення хрысціянства, кампазітар увайшоў у новы век. Знамянальным было і першае яго выкананне на канцэрце-адкрыцці XIII з'езда Беларускага саюза кампазітараў у 2002 годзе.

Музыка для дзяцей і юнацтва, прысвечаная і адрасаваная дзецям, звязаная з вобразамі дзяцінства, працінае ўсю творчасць кампазітара. Разнастайны вобразны свет гэтай музыкі, пачуцці, эмоцыі, настрой усяго толькі працей і больш нагляднa выяўленыя, але не спрошчаныя, як і музычная мова. Да таго ж Р. Сурус заўсёды адгукаецца на просьбы выкладчыкаў, мастацкіх кіраўнікоў калектываў напісаць той ці іншы твор з улікам рознага складу выканаўцаў, тэхнічных сродкаў і г.д.

«Упарты Фама» для дзіцячага хору, чытальніка, салістаў і камернага аркестра на словы Сяргея Міхалкова былі напісаны па замове Ігара Жураўленкі, кіраўніка хору хлопчыкаў ССМШ пры Белдзяржкансерваторыі. Ствараючы «Юнацкі канцэрт», улічваў пажаданні выкладчыцы фартэпіяна гэтай жа ўстановы Іны Барташэвіч. На лепшае выкананне твора быў абвешчаны нават конкурс. Харавую кантату «Фарбы дзяцінства» на народныя словы сачыняў спецыяльна для народнай харавой капэлы «Раніца» пад кіраўніцтвам Віктара Масленікава.

Трывала ўвайшлі ў канцэртную практыку, педагагічны рэпертуар, конкурсныя праграмы фартэпіянныя творы Рыгора Суруса. Сярод іх — больш за 20 праграмных цыклаў і сюіт. Адзін са сваіх апошніх зборнікаў п'ес для фартэпіяна аўтар падараваў менавіта дзявятай музычнай школе. У сваю чаргу, нечаканае прысвячэнне кампазітару ў віншавальным канцэрце падрыхтавалі вучні 7 класа: раманс «Ручай» на словы Я. Коласа выканалі аўтар музыкі Мікіта Лінькоў (партыя фартэпіяна) і Уладзіслаў Краўчанка (вакал).

Запатрабаванасць музыкі Рыгора Суруса падтрымліваюць розныя выдавецтвы. Шмат аўтарскіх зборнікаў, асобных п'ес, буйных твораў было выдадзена ў маскоўскім і ленінградскім аддзелах выдавецтва «Савецкі кампазітар», «Музыка», у выдавецтвах «Беларусь», «Асвета і выхаванне», выдавецкімі аддзеламі Інстытута культуры Беларусі, БДУ культуры і мастацтваў, прыватнымі выдавецтвамі А. Вараксіна, «Зорны верасок». Адзін з апошніх зборнікаў Р. Суруса пад назвай «Ад прэлюдыі да варыяцый» для фартэпіяна быў выдадзены ў 2015 годзе.

У шэрагу камерна-інструментальных і вакальных твораў, створаных кампазітарам на пачатку новага стагоддзя, жыццёвыя рэаліі сучаснасці асэнсоўваюцца ва ўласным індывідуалізаваным філасофскім ракурсе. Гэта адчувальна ў «Санаце-Эпітафіі», у «Саркастычным скерца», у рамансах на словы В. Кулікова-Ярмонава. Але ж галоўнымі і нязменнымі рысамі творчага мыслення Рыгора Суруса застаюцца наследаванне нацыянальным музычным традыцыям і арыгінальнае развіццё найноўшых прынцыпаў кампазіцыі. Фальклорныя матывы, сучасныя інтанацыі і рытмы ў спалучэнні з пранікнёным лірычным выказваннямі аўтара сталі вызначальнымі маркерамі яго рамантызаванага стылю ў разнажанравай палітры музычнага самавыяўлення.

Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН

# Кружэлка з традыцыямі




Беларускія артысты аб'ядналіся вакол асобы народнага паэта Рыгора Барадуліна і стварылі музычны зборнік «Песні матчыны з Вушаччыны». У кружэлку ўвайшлі пераасэнсаваныя і аднаўленыя народныя песні з малой радзімы Барадуліна, якія ў дзяцінстве спявала паэту яго маці.

Дыск выдадзены да 24 лютага — дня нараджэння творцы, а падтрымалі зборнік некалькімі мерапрыемствамі, зладжанымі стваральнікамі напрыканцы лютага. Сродкі на запіс кружэлкі і падрыхтоўку прэзентацыі збіраліся з дапамогай краўдфандынгу: кожны ахвотны зрабіў свой унёсак ва ўшанаванне музычнай спадчыны роднага краю Рыгора Барадуліна.

Паэт прысвяціў гэтаму кутку Віцебшчыны шэраг вершаў. І нездарма, бо маці прывіла Барадуліну любоў да радзімы і мовы. «Песні матчыны з Вушаччыны» — гэта музычная складанка, што стане выдатным правадніком па мясцінах, якімі так захапляўся паэт. У песнях з кружэлкі — уся гама эмоцый і адчуванняў: абрадавыя песні, напеўкі, смяшынкі-казытушкі: шчымлівыя і гуллівыя, сціплыя, дасціпныя і каларытныя.

Традыцыя супольных праектаў у музычнай прасторы даволі даўняя. Варта ўзгадаць і легендарны «Народны альбом», які адсвяткаваў юбілей сёлета. «Песні матчыны з Вушаччыны» працягваюць традыцыю: на кружэлцы можна пачуць песні і вершы ў выкананні самога Рыгора Барадуліна і яго маці Акуліны Андрэеўны, Сержука Доўгушава (стваральнік праекта), Ірэны Катвіцкай, Веры Саламонік, Ілоны Лесь, Віктара Сямашкі, гуртоў «*Re1ikt*», «*Vuraj*», «*Harmonic Style Project*», «Варган», хору «Салютарыс» і іншых выканаўцаў. Кожны з артыстаў ажывіў народныя песні з радзімы дзядзькі Рыгора: кампазіцыі выкананыя ў аўтарскім стылі, на ўласны манер. Натхненне, якое ўсё жыццё Барадулін атрымліваў ад матчыных песень, слухачы могуць падзяліць і між сабой.

# БРЫТАНСКІЯ ТАЛЕНТЫ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Сімфанічная музыка — лепшы падарунак на свята вясны. У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 7 сакавіка адбудзецца святочны канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь з удзелам віяланчэліста Аляксея Кісялёва.

Прагучаць сапраўды вясновыя кампазіцыі: сімфонія № 38 рэ мажор «Пражская» Моцарта, сімфанічная паэма «Влтава» Б. Сметаны і канцэрт сі мінор для віяланчэлі з аркестрам А. Дворжака.

Акрамя выдатнай музыкі, слухачоў чакае некалькі сюрпрызаў. Па-першае, у аркестры з'явіўся новы штатны дырыжор Юрый Караваеў. Галоўны дырыжор аркестра Аляксандр Анісімаў адзначае, што гэта сапраўдная падзея, бо прафесія дырыжора не толькі ўнікальная, але і адзінкавая: адукацыя такога кшталту спецыяліста вымагае як мінімум 20 гадоў. 7 сакавіка адбудзецца дэбют Караваева з сімфанічным аркестрам, але досвед у Юрыя вялікі: праца са студэнцкім аркестрам, з аркестрам Белтэлерадыёкампаніі, праца ў іншых краінах.

Яшчэ адным падарункам для аўдыторыі стане саліст Аляксей Кісялёў — малады беларускі музыкант, які працуе ў Вялікабрытаніі. Артыст ужо стаў адным з вядучых віяланчэлістаў свайго пакалення, а пачынаў з заняткаў па музыцы ў Рэспубліканскім музычным каледжы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Свой першы публічны канцэрт Кісялёў даў у васьмігадовым узросце і амаль адразу пачаў гастраляваць.

За плячыма музыканта — удзел і перамога ў многіх конкурсах (ён стаў прызёрам Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў імя Чайкоўскага ў Санкт-Пецярбургу, атрымаў спецыяльны прыз фонду Співакова, стыпендыю спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі).

Адукацыю Кісялёў працягваў у Германіі і Вялікабрытаніі. З 2011 года артыст сумяшчае кар'еру саліста з працай канцэртмайстра Каралеўскага Нацыянальнага шатландскага аркестра, а таксама выкладчыка ў Каралеўскай кансерваторыі Шатландыі. Паслухаць музыканта, які выступае з канцэртамі ў Еўропе і ЗША, цяпер ёсць магчымасць у суайчыннікаў таленавітага віяланчэліста.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# Сямейная. Мастацкая. Дзяржаўная

## значнасць партрэтаў з калекцыі Мацея Радзівіла

Маштабны праект «Радзівілы: лёсы краіны і роду» прадстаўлены ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. На выстаўцы экспануюцца творы з вялікай прыватнай калекцыі паспяховага польскага фінансіста, прадпрымальніка, мецэната і грамадскага дзеяча, князя Мацея Радзівіла (Варшава) — нашчадка ў сямнаццатым калене знакамітага магнацкага роду па Шыдлавецкай лініі, у XVII стагоддзі аддзеленай ад Нясвіжскай ардынацыі. Продкі Мацея Радзівіла валодалі і маёнткамі, размешчанымі ў Літве і Беларусі. Партрэт яго прапрапрабабулі Ганны з Мыцельскіх захоўваецца ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.



*Невядомы мастак «Тэафілія Бжастоўская з Радзівілаў», XVIII ст.*

Асноўныя экспанаты выстаўкі — партрэты, прадстаўленыя ў храналагічнай паслядоўнасці. Як адзначае куратар выстаўкі, загадчык аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Алена Карпенка, творы ў экспазіцыі не прэтэндуюць на найвышэйшы мастацкі ўзровень: аўтары розныя, многія партрэты ствараліся сябрамі сям'і ды прадстаўнікамі роду. Але вядома, што для Радзівілаў працавалі таленавітыя і знакамітыя ва ўсім свеце мастакі. На выстаўцы, напрыклад, экспануецца партрэт пэндзля Францыска Ксаверыя Лампі.

У экспазіцыю, акрамя партрэтаў, увайшлі мініяцюры, каля двух дзясяткаў медалёў, прысвечаных памятным датам з гісторыі сям'і Радзівілаў, адзін з якіх адліты па эскізе славутага італьянскага скульптара XVI стагоддзя Бенвенута Чэліні, каляровыя гравюры, літаграфіі, радаслоўнае дрэва Радзівілаў, унікальныя слуцкія паясы і шляхецкая шаўковая тканіна — макат, якая выкарыстоўвалася для афармлення магнацкіх рэзідэнцый. А адзін з радзівілаўскіх партрэтаў быў адрэстаўраваны спецыяльна Мацеем Радзівілам для экспанавання ў дадзеным праекце. Па словах калекцыянера, ён не асцерагаецца, што творы могуць быць падробкай, таму што большасць з іх зроблена простымі рамеснікамі альбо ўвогуле невядомымі людзьмі, якія стварылі мастацкія творы ў якасці падарункаў.

Гэта ўжо другая выстаўка ў краіне, для якой Мацей Радзівіл прадастаўляе творы са сваёй калекцыі. Першая была ў Нясвіжскім палацы. Такую актыўнасць калекцыянер тлумачыць імкненнем стварыць для беларусаў напамін пра гісторыю, якую захоўвае наш народ, і, магчыма, адкрыць новыя факты альбо дэталі, звязаныя з гісторыяй роду Радзівілаў. І сапраўды, аматары мастацтва зацікаўлены: попыт на выстаўку досыць вялікі, выставачныя залы запоўненыя.

Выстаўку адкрывае партрэт XVIII стагоддзя легендарнай Барбары Радзівіл, дачкі Юрыя Радзівіла Геркулеса Літоўскага, знакамітай прыгажуні, жонкі вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста. Той самы партрэт, каля якога не спыніцца проста немагчыма. Тут сышліся ўсе фактары: прыгажосць, загадкавасць і абаяльнасць.

Такія творы мастацтва заўсёды выклікаюць захапленне: грацыёзнасць асобаў, класічны падыход і манументальнасць. Многія партрэты цяпер з'яўляюцца каштоўнымі яшчэ і таму, што захаваліся ў адзіным экзэмпляры. Сярод такіх твораў — партрэты Цэцыліі з Радзівілаў Сяняўскай, Антаніны Менчынскай, Тэафіліі з Радзівілаў Бжастоўскіх.




*Невядомы мастак «Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька», XVIII ст.*

Далей Мацей Радзівіл плануе выдаць сямейны альбом, у якім былі б сабраныя партрэты Радзівілаў. Сёння ў распараджэнні князя — некалькі сотняў фатаграфій партрэтаў Радзівілаў з Беларусі, Украіны, Літвы. Ідзе збор здымкаў з музеяў Польшчы. У 2018 годзе Мацей Радзівіл плануе выдаць альбом, які ўключае каля 300 фотаздымкаў партрэтаў з кароткімі біяграфічнымі звесткамі.

Нацыянальны мастацкі музей можа ганарыцца тым, што сёння мае магчымасць пазнаёміць з гісторыяй роду Радзівілаў у асобах у такім шырокім фармаце. Выстаўка была арганізаваная дзякуючы цікавасці двух бакоў. Вынікі і ўвага да праекта даказваюць: усё было нездарма.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



Горад Віцебск не можа не прыцягваць шматлікіх турыстаў. Тут нароўні з сучаснымі архітэктурнымі ансамблямі размясціліся ва ўтульным суседстве помнікі архітэктуры і мастацтва, якія ўпрыгожваюць культурную сталіцу Беларусі не адну сотню гадоў.

Госці горада адзначаюць, што асабліва славіцца турыстычны Віцебск сваімі храмамі, хоць гісторыя прызначыла многім з іх нялёгкі лёс. Нават пасля таго, як з вартасцю вытрымалі выпрабаванні стагоддзяў, ваенную разруху, некаторыя помнікі культуры бязлітасна былі знішчаны ў мірны час. Але потым храмы ізноў уваскрасалі — на рэштках руін, на рэштках нашай памяці.

І вось сёння над Віцебскам разносіцца то ўрачыстарадасны, то маркотна-надрыўны спеў званоў. Нібы гэта адзіная нітка, якая спраўна, з дня ў дзень, нагадвае пра разбураныя святыні, пра адзначаныя Богам месцы і тым самым надзейна сплятае ў адзінае палатно гісторыю і сучаснасць.

Велічны віцебскі Свята-Успенскі кафедральны сабор 12 разоў(!) разбуралі і зноў аднаўлялі. Пасля рэвалюцыі 1917 года храм закрылі, а ў 1936 годзе… падарвалі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны на Успенскай гары, дзе велічна стаяў сабор, пабудавалі завод станкоў, але ў 80-х гадах мінулага стагоддзя ён перастаў дзейнічаць.

І вось прыйшла радасная для ўсіх гараджан вестка: 26 верасня 1998 года Патрыярх Маскоўскі Алексій II заклаў капсулу з памятнай граматай і асвяціў першы камень будучага велічнага храма. Ідэю пра адраджэнне Свята-Успенскага кафедральнага сабора падтрымаў і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, сабор узнаўляўся дзякуючы царкве і дзяржаве.

4 мая 2003 года на месцы будаўніцтва храма адбылася першая пасля 1936 года літургія.

28 жніўня 2005 года, у дзень свята Успення, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт адслужыў літургію ў ніжнім храме сабора, які яшчэ будаваўся. Да канца 2009-га былі ўзведзены званіцы, падняты купалы і званы. Праз месяц храм наведаў Патрыярх Маскоўскі і ўсёй Русі Кірыл. Аздабленне і роспіс сабора завяршылі да наступлення вясны 2011 года. А 30 верасня мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт асвяціў храм.

Археалагічныя знаходкі, праведзеныя на Успенскай гары, шакіравалі вучоных: на месцы былых манастырскіх склепаў былі выяўлены косткі соцень чалавек. Нягледзячы на страшную знаходку, будаўніцтва працягвалася, а знойдзеныя чалавечыя рэшткі пахавалі каля храма пасля яго асвячэння ў 2005 годзе.

Цалкам пабудаваны, аздоблены і ўпрыгожаны Успенскі Сабор адкрылі для вернікаў 7 красавіка 2011 года.

**Серафіма БЕСТАВА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
2.03.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1624.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 975

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686